16 кастрычніка 2020 | № 39 (698)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144





«Як у Беларусі за дэмакратыю змагаліся»
Стар. 10–11

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ ПАДЗЕІ ФАКТЫ

# Дзякуй, што не газавыя камеры...

Аксана КОЛБ

**Не ведаю, у чыёй хворай галаве з'явілася думка разганяць пенсіянераў, дый ведаць не хачу. Тое, што ўсе пабачылі 12 кастрычніка, калі немаладым людзям здаровыя дзецюкі распылялі газ у твар і стралялі, проста не мае цэнзурнай назвы.**

Што далей? Дзяцей у кайданкі? Было. Не было пакуль канцлагераў ды газавых камер. Каму за гэта падзякаваць? Хто той дабрадзей, які зрабіў нашу Беларусь краінай людзей з дубінкамі? Людзі з дубінкамі сёння шчыруюць па ўсіх напрамках, і нават, кажуць, гатовыя страляць баявымі. Што ж — выдатны фінал для таго, каго нібыта падтрымлівае большасць.

Людзі з дубінкамі ў літаральным і пераносным сэнсе сёння думаюць, што яны і ёсць краіна. Бо гвалт, прыніжэнне і жывёльны страх — іх звычайны стан, фактычна, іх сутнасць. Здзекавацца як дыхаць, хлусіць як бачыць, а яшчэ — злавацца на ўвесь свет і вар'яцець ад думкі, што хтосьці мае смеласць і гонар быць свабодным ці прагнуць свабоды.

Але краіна — не яны. Беларусь — гэта светлыя прыгожыя людзі розных узростаў і прафесій, якія выходзяць на вуліцы, каб мірна сказаць сваё «НЕ» людзям з дубінкамі. Гэта тыя смелыя людзі, якія нягледзячы на ціск і пагрозы кожны дзень выступаюць з адкрытымі зваротамі супраць таго, што адбываецца ў краіне: навукоўцы, спартоўцы, рабочыя... Хтосьці па-партызанску кожную ноч аздабляе бел-чырвона-белымі колерамі нашы вуліцы і паркі.

І колькі б іх ні білі, ні палівалі вадамётамі, ні разганялі святлашумавымі гранатамі і гумовымі кулямі, яны не спыняцца. Бо тады ў краіне запануюць людзі з дубінкамі. Запануе страх, прыніжэнне, гвалт.

Я глядзела, як чыесьці бабулі і дзядулі, мамы і таты з гонарам ішлі па праспекце Незалежнасці. А пасля бачыла, як яны спрабавалі выратаваць студэнтаў (чыіхсьці ўнукаў і дзяцей) ад амапаўцаў, як немаладыя людзі беглі адзін аднаму на дапамогу. Беглі як маглі, як дазваляла здароўе, але вельмі рашуча. І я бачыла, як людзі з закрытымі тварамі (хаця ці ж людзі гэта) замахваюцца на старых дубінкамі, пырскаюць бабулям газ у вочы, страляюць у дзядулю. А тыя крычаць ім: «Фашысты! Пайшлі вон з нашай зямлі!»

Людзі сталага веку не разбягаліся ад газу і куль, яны не баяліся. Яны стаміліся баяцца. Чыесьці бабулі і дзядулі, мамы і таты. Нашы бабулі і дзядулі! Нашы мамы і таты! Наш гонар. Здароўя вам! І нарэшце вольнай краіны ўсім нам!

***P.S.:** Пасля маршу пенсіянераў мінчук Сяргей усю ноч шукаў сваю 59-гадовую маму. Яе затрымалі трое з тых, што «з дубінкамі», калі яна чакала сына. Ён мітусіўся паміж Акрэсціна і Савецкім РУУС, дзе яму хлусілі, што мамы ў іх няма. А 4-й раніцы яе завезлі на Акрэсціна. Але сын не змог перадаць ёй цёплыя рэчы і лекі, бо «перадачы дазволеныя толькі па чацвяргах». «Я турбуюся, што маці была лёгка апранутая. У яе падымаецца ціск. Але на Акрэсціна мне адказалі, маўляў, у нас ёсць медпункт, калі ёй стане дрэнна — дапамогуць». 14 кастрыніка, у Дзень маці, суд Савецкага раёна Мінска даў жанчыне 13 сутак.*









Фота Радыё Свабода




Фота Радыё Свабода

# «Галоўнае — не баяцца»

Аксана КОЛБ

**«Я буду вельмі сумаваць па нашай камандзе. У нас сапраўдная каманда. Мы ўсе розныя, але заўсёды падтрымліваем адзін аднаго», — кажа Арцём Ульянаў. 7 кастрычніка быў падпісаны загад аб яго звальненні з МНС.**



— Напэўна, я яшчэ не зусім разумею, што звольніўся. Такое адчуванне, што проста ўзяў адпачынак, — распавядае хлопец. — Мне яшчэ засталося падпісаць абхадны ліст...

Арцём Ульянаў — камандзір аддзялення пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі №30 Ленінскага РАНС. Яго аддзяленне адмовілася выехаць на Байкальскую, 6, каб зняць сцяг. Арцём кажа, што яны з хлопцамі ад самага пачатку абмяркоўвалі, як будуць дзейнічаць, калі атрымаюць загад здымаць сцяг.

— Пасля 9 жніўня, калі на дамах пачалі з'яўляцца велізарныя бел-чырвона-белыя сцягі, кіраўніцтва запэўнівала нас, што МНС па-за палітыкай і мы не будзем імі займацца, — сцвярджае Арцём. — Але праз некаторы час ведамству ўсё ж такі даваліся ўдзельнічаць у гэтым. Асабіста я і мая частка ні разу не выязджалі на такую працу. Вядома, мы абмяркоўвалі з калектывам, што нам можа паступіць загад здымаць сцягі, але ўсе былі катэгарычна супраць у гэтым удзельнічаць. Да 12 верасня ніхто з нашых хлопцаў на такую працу не выязджаў.

— Для мяне асабіста і для шматлікіх маіх калег бел-чырвона-белы сцяг пасля 9 жніўня стаў сімвалам пратэсту, сімвалам таго, што нельга мірыцца з несправядлівасцю, з гвалтам і, канечне ж, хлуснёй. Бел-чырвона-белы — гэта сімвал свабоды для мяне. Напэўна, і для кожнага з нас. Таму ў той дзень усе нашы хлопцы адмовіліся ехаць на выклік. Пасля нам казалі, што, маўляў, вас ніхто не прасіў зняць сцяг, проста небяспеку ўяўляў той трос, на якім ён вісеў...

Арцём кажа, што не збіраўся распавядаць пра гэты выпадак да таго моманту, пакуль на яго не сталі аказваць ціск. Прычым, не кіраўніцтва часткі, да яго ў хлопца няма ніякіх прэтэнзій і крыўдаў. Ціск ішоў зверху. Больш за тое, пра Арцёма папаўзлі плёткі, што ён, маўляў, экстрэміст, завадатар, і наогул не вельмі сумленны чалавек.

— Улістападзе было б 13 гадоў, як я працую ў частцы. Я прыйшоў туды 18-гадовым... Канечне, я буду сумаваць. Найперш, канечне, па сваіх хлопцах. Па камандзе. Яны ўсе таксама хацелі напісаць рапарты на звальненне. Я тады іх утрымаў. Хто ж тады будзе працаваць, не ідэолагі ж...

З таго дня частку Арцёма больш не прыцягвалі да зняцця сцягоў. Калектыў, які з ім працаваў, падтрымлівае яго рашэнне. Хлопцы кажуць, што здымаць сцягі яны не маюць намеру, і цяпер звальняцца па ўласным жаданні таксама: «Калі хочуць — няхай па артыкуле звальняюць».

За 13 гадоў у выратавальніка Арцёма Ульянава было шмат усяго. Тысячы выездаў, дзясяткі выратаваных жыццяў. Аднойчы ён таксама мог загінуць. Гэта быў пажар у пяціпавярхоўку на Пляханава. Гарэла кватэра на 5-м паверсе. Так атрымалася, што Арцём аказаўся адрэзаным агнём. Ён выскачыў на балкон, лёг на падлогу, вакол усё пала, на спіну капаў расплаўлены бітум.

**Арцём Ульянаў — камандзір аддзялення пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі №30 Ленінскага РАНС. Яго аддзяленне адмовілася выехаць на Байкальскую, 6, каб зняць сцяг**

— Столькі думак пранеслася ў гэтыя хвіліны. Але пасля хлопцы да мяне прабіліся. Наогул, калі выклік на пажар паступае пасля гадзіны ночы, ды яшчэ перад выхаднымі, — гэта заўсёды вельмі сур'ёзна. Таму мы звычайна яшчэ пакуль едзем, стараемся прапрацаваць усе варыянты. Але тым разам нешта пайшло не так. Наогул, кожны пажар пракручваеш у галаве, разбіраеш, што і як мы зрабілі, ці былі памылкі. Памылкі заўсёды бываюць.

Арцём расказвае пра свае выезды — і яго вочы свецяцца. Бачна, што хлопец вельмі любіў сваю працу. Ён быў на сваім месцы.

— У гэтым годзе быў выезд. Можа, адзін з самых цяжкіх. Вісакосны год, відаць... Загінулі два чалавекі. Адзін з іх быў нежывы, ужо калі мы прыехалі. А другі быў у непрытомнасці. Але з-за заблакаваных дзвярэй мы не змаглі яго своечасова эвакуяваць. Хлопцы на балконе спрабавалі яго выратаваць, але... Калі людзі ставяць браніраваныя дзверы, яны думаюць, што сябе абараняюць. Але пры пажары гэта можа каштаваць ім жыцця.

Арцём расказвае і пра гумар выратавальнікаў і пра тое, як адбываецца пасвячэнне вадой маладых, пра сваіх сяброў і калег. Пра гук паветра, якое выдзьмуваецца з-пад маскі, пра сігнал свістка... Па ўсім бачна, што рашэнне звольніцца далося не вельмі лёгка.

Акрамя іншага, за месяц выратавальніку трэба будзе выплаціць 6125 рублёў, якія ён атрымаў яшчэ ў 2017 годзе пры заключэнні пяцігадовага кантракту і даўно выдаткаваў.

Жонка Арцёма ў дэкрэце, гадуе 2-гадовую дачку, жывуць яны на здымнай кватэры.

— Калі ўсё гэта пачалося, мы з жонкай абмяркоўвалі. Я казаў, што не змагу пайсці супраць сумлення. І яна мяне зразумела. Мы з ёй разам ужо 6 гадоў. А пазнаёміліся на працы. Яна працавала дыспетчарам у нас.

Хлопцу ўжо прапанавалі дапамогу валанцёры фонду BySol. Паступіла і прапанова працы ў Беларусі. Наогул, апошнія дні Арцём адчувае вялізарную падтрымку. Шмат званкоў, натхняльных каментароў.

На жыцці ў Арцёма шмат планаў. І ён яшчэ не вырашыў, чым будзе займацца.

— Мне падабаецца працаваць з дрэвам, ёсць жаданне займацца экалагічнай мэбляй, пачаць свой бізнес. Магчыма, буду займацца чымсьці, звязаным з актыўным турызмам, ёсць ідэі для стартапаў. У мяне шмат планаў. Важна, каб адбыліся перамены ў Беларусі. Бо з'язджаць я не збіраюся. Галоўнае — не баяцца, і ўсё будзе добра!

# Чаго хочуць пенсіянеры, якія выйшлі на марш

Мая КАХНО

**У панядзелак на марш пенсіянераў сабралася некалькі тысяч чалавек. Бабулі і дзядулі адважыліся адбіць затрыманых студэнтаў і не адступалі нават пасля святлашумавых куль і пярцовага газу. Мы пагутарылі з пенсіянерамі, каб даведацца, чаму яны выходзяць на маршы.**

### «Дзеці пакідаюць краіну, таму што страшна заставацца»

Па шляху сустракаем жанчыну са сцягам Арменіі. Гэта Таццяна, ёй 61 год, яна — мастак-манументаліст. У Тацціяны муж — армянін. Выбар сцяга тлумачыць проста: любіць армянскі народ за мужнасць і хацела б падтрымаць краіну падчас канфлікту ў Нагорным Карабаху. Але Таццяна не можа быць абыякавая да сітуацыі ў сваёй краіне — у Беларусі.

— Я ўвесь час выходжу, няма сіл гэта трываць. Хочацца пераменаў, каб дзеці жылі ў нармальнай краіне — не ў такой, як мы цяпер аказаліся. У мяне трое дзяцей, і іх тут няма. Дзве дачкі жывуць у Амерыцы, а трэцяя таксама збіраецца з'язджаць на Кіпр, таму што страшна. Яна актыўна ўдзельнічае ў пратэстах і кажа, што нават дома баіцца знаходзіцца адна.

Усе гады, калі Лукашэнка быў ва ўладзе, мне было сорамна. Я памятаю Машэрава, я яго асабіста бачыла, была на прыёме, ёсць з чым параўноўваць — тады Беларусь усе паважалі, а калі прыйшоў Лукашэнка — усё змянілася.

У нядзелю быў жах, як можна ставіцца да гэтай жорсткасці? На мой погляд — гэта ўжо агонія. У гэтым годзе пратэст стаў такім масавым, таму што ўсе бачылі, што ён прайграў, усе бачылі, колькі людзей прыйшло і як мы галасавалі. Проста гэта ўжо быў верх нахабства.

За гэты час мы ўсе так з'ядналіся, мы сталі такія іншыя! Людзі ўжо свядома будуць галасаваць за новага лідара, ужо не можа паўтарыцца тое, што было раней. Усе ўсвядомілі сваю памылку.

### «Не хачу быць прыніжаным»

Разам з астатнімі ўдзельнікамі маршу заўважаем каларытнага ўдзельніка — ён у майцы з арнаментам, трубой, ляскоткамі, на поясе ў яго нешта накшталт партатыўнай калонкі. Гэта Мікалай, яму 79 гадоў. Ён — былы навуковы супрацоўнік лабараторыі БДУ, рэжысёр-пастаноўшчык Белдзяржфілармоніі.

— Я шчаслівы, таму што сёння выйшла столькі людзей сталага веку. Колькі можна ганяць людзей? Гэта ж тыя людзі, якія ў вайну галадалі, якія страцілі сваіх бацькоў, дзяцей, а сёння яны ідуць са слязамі на вачах. Нельга дапускаць разгонаў, гэта бесчалавечна.

Я выходжу кожную нядзелю, каб нашых людзей не мучылі. Я супраць гэтай улады і заўсёды галасаваў за іншых, не за Лукашэнку. Ён зрабіў шмат добрага, але нельга нас прыніжаць за тое, што мы выйшлі на пратэст, — мы таксама многа зрабілі для краіны. Ён стаў пад бел-чырвона-белым сцягам, прыняў прысягу, а цяпер ганьбіць гэтыя сцяг. Бел-чырвона-белы сцяг — гэта наша гісторыя.

Мы ж выходзім без аўтамата, без тых машын, з кветкамі — гэта такое шчасце! На іх трэба маліцца богу, нарэшце людзі прачнуліся. Калі табе 79 гадоў, так хочацца быць шчаслівым!

Краіну новы прэзідэнт не раскідае, а наадварот згуртуе. Я быў у краінах, якія перажылі рэвалюцыі, і магу сказаць, што мы будзем жыць яшчэ лепш. Мы павінны ў гэта верыць.

### «Змагацца за свабоду, бо ў нас яе не было ніколі»

У калоне ідуць дзве жанчыны. Вольга — з чырвоным шалікам і яе 84-гадовая мама — Еўдакія Барысаўна. Еўдакія 51 год прапрацавала скрыпачкай у Купалаўскім тэатры, апошнія падзеі ў тэатры яна называе сваім болем.

— Я прапрацавала да 75 гадоў у тэатры, і магла б працаваць дагэтуль, але мне захацелася паездзіць па свеце, мне трэба было паглядзець, як людзі жывуць. Беларускі пенсіянер не можа дазволіць сабе падарожнічаць, калі ён яшчэ падзарабляе, то тады можна сабраць грошай і кудысьці паехаць, а я ўжо ездзіла з падтрымкай дачкі і ўнука. Пасля падарожжаў я атрымала велізарнае задавальненне!

Падзеі ў краіне падахвочваюць нашых людзей выходзіць на мітынгі, выказваць сваё меркаванне. Цяпер — гэта толькі воля народа. Галоўныя патрабаванні — вызваліць усіх палітычных зняволеных і прыбраць нашага адзінаабранага, натуральна. Ён так усіх дастаў... яму ўжо час адпачыць.

Усіх ускалыхнулі выбары. Перажыць гэта было немагчыма. Тое, што адбывалася на Акрэсціна, — гэта жудасна. Фашысты так не ставіліся да людзей падчас вайны, як тут у ізалятары. Вось яны прыходзяць дадому, што яны кажуць жонкам, дзецям, мамам? Як яны жывуць пасля гэтага?

Бел-чырвона-белы сцяг — гэта для мяне не навіна, гэта наш сцяг. Калі мы ставілі «Паўлінку» ў 1990-х гадах на гастролях, акцёры выходзілі на сцэну з бел-чырвона-белым сцягам. З таго, што я чытала, якраз бел-чырвона-белы сцяг — і ёсць першы беларускі, а вось гэты чырвона-зялёны з'явіўся, калі Беларусь стала адной з савецкіх рэспублік.

Калі я глядзела з балкона ў Мінску падчас маршаў, я прасіла людзей падысці, кінула ім шакаладкі, крычала ім. Я прасіла іх, каб яны толькі хадзілі, каб не спыняліся. Я пісала ў Facebook: «Вы нам патрэбныя, мы ад вас залежым, вы павінны дамагацца свабоды». Свабода — гэта самае галоўнае для чалавека, таму што ў нас яе не было ніколі.

# Як прасачыцца ў шчыліну, якой няма

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка — майстар лавіравання. Ва ўмовах, калі «дапякло», ён заняўся звыклай справай. Напэўна, гэтым і тлумачацца супярэчлівыя крокі ўлады: з аднаго боку, сустрэча ў СІЗА КДБ з Бабарыкам і вызваленне некаторых палітзняволеных, з іншага — брутальныя дзеянні сілавікоў у мінулую нядзелю.**



## Дапякло?

Наступствы «вайны супраць Захаду» не прымусілі сябе чакаць. Нагадаем, раней беларускі МЗС запатрабаваў адклікаць з Беларусі «для кансультацый» амбасадараў Польшчы і Літвы — па меркаванні афіцыйнага Мінска, «галоўных лялькаводаў» беларускага пратэсту. Але ў адказ аб'яднаная Еўропа прадэманстравала еднасць, адклікаўшы «для кансультацый» амбасадараў не толькі запатрабаваных беларускім МЗС краін. У выніку ў Мінску засталіся кіраўнікі дыпламатычных місій толькі Аўстрыі і Італіі.

Такі дэмарш Еўропы вокамгненна даў эканамічны эфект. Па-першае, Літва адмовілася пералічваць чарговы транш тэхнічнай дапамогі ЕС для Беларусі. Па-другое, як і прадказвалася, «пасыпаліся» еўрапейскія банкі. Еўрапейскі інвестыцыйны банк адмовіўся ад узаемадзеяння з Беларуссю, Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця пакуль не агучыў па Беларусі афіцыйнае рашэнне, аднак у прынятай у верасні рэзалюцыі Еўрапарламента банку рэкамендуецца прыпыніць фінансаваць у Беларусі праекты з удзелам дзяржавы. Падобны досвед у ЕБРР ёсць: гэтая структура ўжо згортвала супрацу з Сінявокай пасля падобнай рэзалюцыі ў 2011 годзе.

А галоўнае: пад пагрозу пастаўленая магчымасць размяшчэння еўраабліагацый — у 2012–2016 гадах разлікова-клірынгавыя сістэмы ЕС Euroclear і Clearstream, спасылаючыся на наяўнасць санкцый Брусэля, адмаўляліся рэгістраваць выпускі беларускіх еўрабондаў. Між тым, менавіта еўраабліагацыі ўвесь час былі «выратавальным кругам» для беларускай эканомікі і ці не адзінай крыніцай паступлення крэдытных рэсурсаў у валюце. Бо Расія дае крэдыты толькі на рэфінансаванне нашых пазыкаў (гэта азначае, перакладае грошы з аднаго маскоўскага рахунку на іншы маскоўскі рахунак), а Кітай дае крэдыты ў юанях, і таксама «звязаныя». То-бок, за кітайскі крэдыт мы аплачваем працу кітайскіх рабочых і пастаўкі кітайскага абсталявання.

Карацей, прыцiснула. Не дзіва, што міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей патэлефанаваў вярхоўнаму прадстаўніку ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Жазэпу Барэлю. Афіцыйна яны размаўлялі пра «перспектывы адносін паміж Беларуссю і ЕС». Але відавочна, што, калі Мінск выганяе еўрапейскіх амбасадараў, ніякіх перспектыў быць не можа. Фактычна, пра гэта Макею і было заяўлена. «ЕС чакае ад уладаў Беларусі спынення гвалту і рэпрэсій у дачыненні да грамадзян, а таксама вызвалення ўсіх затрыманых і палітычных зняволеных, павагі свабоды СМІ і грамадзянскай супольнасці, і заклікаў улады Беларусі пачаць усеабдымны нацыянальны дыялог», — гаварылася ў паведамленні з нагоды тэлефоннай размовы, распаўсюджаным прадстаўніцтвам ЕС у Мінску.

## Як прадаць палітвязня

У гэтых варунках Лукашэнка заняўся тым, чым звыкла займаецца ўжо даўно. Цяпер ён спрабуе імітаваць «дыялог» і прадаць Захаду палітвязняў. Менавіта так выглядае яго візіт у СІЗА КДБ да каманды Віктара Бабарыкі і вызваленне двух чалавек з запрошаных на сустрэчу.

Лукашэнка ў СІЗА КДБ сустрэўся з Віктарам і Эдуардам Бабарыкамі, адным з каардынатараў штабу Бабарыкі Юрыем Васкрасенскім, чальцом Каардынацыйнай рады Ліліяй Уласавай, адвакатам Іллём Салеем, паліттэхнолагам Віталём Шкляравым. Верагодна, на сустрэчы таксама былі Кірыл Бадзей, які да арышту займаў пазіцыю в.а. старшыні праўлення Белгазпрамбанка, а таксама дырэктар IT-кампаніі PandaDoc Дзмітрый Рабцэвіч. Амаль усіх гэтых людзей (за выключэннем, можа, Рабцэвіча і Шклярава) можна ўмоўна назваць «штабам Віктара Бабарыкі». Пазней Васкрасенскі і Рабцэвіч выйшлі на волю — ім была змененая мера стрымання.

Афіцыйная версія пра тое, што Лукашэнка абмяркоўваў на сустрэчы магчымыя змены ў Канстытуцыю, ні ў каго не выклікала даверу. Хаця б таму, што перад сваім арыштам Віктар Бабарыка выступіў з ініцыятывай па вяртанні ў дзеянне Канстытуцыі 1994 года, а яго штаб нават абвясціў аб фарміраванні ініцыятыўнай групы, якая павінна была сабраць 450 тысяч подпісаў, неабходных для правядзення рэферэндуму па гэтым пытанні. Як, у такім выпадку, з Бабарыкам можна абмяркоўваць новую Канстытуцыю?

Тым больш, што пакуль няма нават прадмета для абмеркавання — праект гэтых зменаў не аформлены, не прадстаўлены да ўвагі грамадству, і вельмі сумнеўна, што для палітвязняў было зроблена выключэнне.

Па вялікім рахунку, ёсць дзве асноўныя версіі наведвання Лукашэнкам СІЗА КДБ. Першая: ён падбірае сабе «апанентаў» для пачатку таго «ўсеабдымнага нацыянальнага дыялогу», які патрабуе Еўропа. Відавочна, яму важна, каб за магчымым «круглым сталом» сядзела гэтакая «ўмераная апазіцыя», а не рашучыя і радыкальныя Мікалай Статкевіч з Паўлам Севярынцам. Магчыма, Лукашэнка прамацваў глебу: наколькі можна размаўляць з Бабарыкам.

Другая версія больш радыкальная: Лукашэнка гатовы «рвануць з краіны», і размаўляў пра нейкія гарантыі бяспекі для яго і яго блізкага (вельмі блізкага) атачэння. Да такой думкі падштурхоўвае выбар суразмоўцаў і час размовы — чатыры з паловай гадзіны.

Размаўляць пра гарантыі бяспекі Лукашэнку больш няма з кім. Ён не можа надаць сабе такіх гарантый, бо не з'яўляецца легітымным, і ўсе яго рашэнні не вартыя паперы, на якой напісаныя. Ён не можа размаўляць пра гарантыі са Святланай Ціханоўскай, бо яе праграма вядомая: гэта вызваленне палітвязняў і сумленныя празрыстыя выбары. Ціханоўская неаднаразова казала: яна не хоча быць прэзідэнтам і пайшла ў выбарчую кампанію толькі дзеля забеспячэння двух гэтых пунктаў.

А вось у Віктара Бабарыкі шанцы стаць прэзідэнтам на свабодных і празрыстых выбарах (як паказала перадвыбарчая кампанія) — даволі вялікія. І ён мог бы даць гарантыі непераследу былога кіраўніка краіны ў тым выпадку, калі стане прэзідэнтам.

## Інсайд

Цікавую версію са спасылкай на неназваныя (зразумела, чаму) крыніцы ў беларускім кіраўніцтве — у Саўбезе, у Адміністрацыі прэзідэнта і ў Саўміне — выказалі расійская «Адкрытыя медыя». Маўляў, раней Масква дала Лукашэнку месяц на ўтаймаванне пратэстаў. Прайшло два месяцы — нічога не зроблена. І таму Лукашэнка прапанаваў сваім апанентам здзелку. Яны заклікаюць сваіх прыхільнікаў спыніць вулічныя выступы і спробы арганізаваць забастоўкі. Узамен Лукашэнка выпускае апазіцыянераў на свабоду, дзе яны ўвойдуць у склад будучай камісіі па выпрацоўцы новай Канстытуцыі. Калі яна будзе гатовая (у наступным годзе) — адбудуцца і новыя выбары.

Але справа ў тым, што Лукашэнка пра спыненне пратэстаў размаўляў, падаецца, не з тымі людзьмі. Разлічваць на тое, што Бабарыка выйдзе на волю, і пратэсты спыняцца — вяршыня наіўнасці. Людзі выйшлі не столькі за Віктара Дзмітрыевіча (хоць і за яго таксама) і за Святлану Ціханоўскую, колькі супраць сістэмы фальсіфікацыі і гвалту, якая ўвасобленая ў адным чалавеку. Таму ездзіць у КДБ да Бабарыкі за «спыненнем пратэсту» Лукашэнку проста бессэнсоўна.

Лукашэнка, напэўна, усё яшчэ не можа прыняць, што супраць яго — большасць краіны. І гэта нават пяць выпушчаных на волю Бабарыкаў не зменяць. Як слушна напісала Ірына Халіп, калі б Бабарыка выйшаў да пратэстоўцаў і сказаў: «Мы тут пагутарылі і вырашылі, што час сыходзіць з вуліц і пачынаць дыялог па канстытуцыйнай рэформе», яму б адказалі: «Ды хто вы такія, каб указваць, што нам рабіць?»

Але ўсё гэта — варажба на кававай гушчы. Дакладна не вядома, пра што размаўлялі Лукашэнка з камандай Бабарыкі. Тым не менш, большасць экспертаў сходзіцца ў адным: Лукашэнку прыцiснула. Наведванне СІЗА КДБ — гэта вымушаны крок, і змусілі яго да гэтага вулічныя пратэсты. Улада такім чынам паказала, што пратэсты — дзейнічаюць, што ўлада — расхісталася і саслабла. Пакуль не да такой ступені, каб рассыпацца, але справа да таго ідзе.

Таму не варта супакойвацца, спыняць пратэст і крычаць, што «вуліца зліласяr». Не, пратэст — моцны інструмент.

## Сілавы адказ Чэмберлену

У той жа час усе спробы (калі такія былі) пасляць Захаду сігнал пра гатоўнасць да перамоваў разбіліся праз жорсткае падаўленне Маршу гонару. Паведамлялася пра выкарыстанне вадамётаў, святлашумавых гранат, па пратэстоўцах зноў стралялі гумовымі кулямі. Было затрымана больш за 600 чалавек, з іх — пад тры дзясяткі журналістаў. Каля 10 чалавек даставілі з Маскоўскага РУУС Мінска ў бальніцу хуткай дапамогі з цяжкімі траўмамі.

Чаму зноў была прадэманстраваная жорсткасць? Раней казалася, што Лукашэнка хацеў заплямiць крывёю як мага больш сілавікоў: маўляў, каб яны не «саскочылі» і абаранялі яго да апошняга. Таму быў такі «брутал» 9–13 жніўня. Але цяпер, імаверна, сілавікі паказалі, што гэтая тактыка працуе ў абодва бакі. Калі «саскочыць» захацеў Лукашэнка, яму выбітна прадэманстравалі: «Без нас не атрымаецца». Сілавікі вокамгненна нівелявалі ўсе «сігналы» наконт дыялогу жорсткасцю на вуліцы.

Менавіта таму ў першую чаргу хапалі журналістаў: на іх затрыманне Захад рэагуе больш балюча, чым на затрыманне простых дэманстрантаў.

Такім чынам грамадзянін Лукашэнка аказаўся ў закладніках той самай сістэмы, якую ён выбудаваў. І добрага выйсця з гэтай сітуацыі для яго няма.

Што будзе далей, наўрад ці хто прадкажа. Як зазначыў рэдактар «Салідарнасці» Аляксандр Старыкевіч, «развіццё сюжэту не будзе лінейным», і на фоне заклікаў да дыялогу верагоднае таксама ўзмацненне рэпрэсій.

Адно можна сказаць дакладна: пратэст вельмі моцна ціснe на ўладу, і ў яе ўжо няма добрага выйсця. Лукашэнка, канешне, майстар выслізнуць з сітуацыі, і ён шукае гэтую шчыліну, у якую мог бы прасачыцца. Ці знойдзе — вялікае пытанне.

# «Ён можа кіраваць толькі страхам і кадрамі сілавікоў. Для гэтага трэба мець шмат грошай»

Славамір СЕРАКОЎСКІ



Фота НЧ

**Польскі публіцыст і сацыёлаг Славамір Сераkоўскі ўвесь жнівень правёў у Беларусі. «Радыё Свабода» ён расказвае, што зразумеў пра Беларусь за гэты час, чым беларускі пратэст выключны і чаму ўвойдзе ў сусветную гісторыю, чым шакавалі яго беларусы і чаму свет павінен ад іх павучыцца.**

## «Беларусы робяць менавіта тое, што трэба»

— Беларусь і гэтыя пратэсты ўвойдуць у гісторыю свету. Не Усходняй Еўропы, не проста Еўропы, а менавіта ў гісторыю свету. Шмат з якіх прычын. Найперш таму, што яны з'яўляюцца ў такім нечаканым моманце і найбольш нечаканым месцы.

Сапраўды, ніхто не спадзяваўся, што ў Беларусі адбудзецца нешта неверагоднае, настолькі цудоўнае. А час цяпер такі, калі «гніюць» ліберальныя дэмакратыі, як у Польшчы, ЗША, Венгрыі і ў шмат якіх іншых месцах.

Беларусы не толькі шакавалі свет, але і нагадалі, што такое дэмакратыя, што такое грамадскі пратэст, што такое правы чалавека, што такое грамадская адвага, адказнасць, салідарнасць паміж людзьмі. Гэта глыток паветра для ўсяго свету.

Беларусы робяць менавіта тое, што трэба. Гэта вельмі мудры палітычны пратэст, бо ён цалкам мірны. Мірныя пратэсты, нават паводле навуковых даследаванняў, завяршаюцца паспяхова нашмат часцей, чым пратэсты з насіллем.

Ва Украіне гэта акурат удалося, з розных прычын. Але, будзьма шчырымі, удалося няпроста, з праблемамі. Гэта не ідэальны сцэнар. Тым больш, Беларусь у іншай сітуацыі.

Нямірны пратэст мог бы стаць імпульсам, даў бы простыя аргументы Лукашэнку, Расіі, паставіў бы ў вельмі складаную сітуацыю Захад. У Захаду таксама ёсць свае праблемы. Я не ўпэўнены, што ў Еўрасаюзе і іншых месцах усе былі такія задаволеныя тым, што Беларусь нечакана прымушае да маральных рашэнняў аб дапамозе.

У гэтага пратэсту няма лідара, начальніка, які аддае загады і ад якога б шмат што залежала. І гэта, дарэчы, вельмі добра. Мы зараз зможам пра гэта пагаварыць.

Гэты пратэст вельмі дысцыплінаваны, вельмі, як на мяне, эфектыўны, вельмі крэатыўны. Беларусы ўвесь час развіваюць формы пратэсту, прыдумляюць вельмі розныя формы.

Калі нельга пратэставаць на плошчы Незалежнасці, дзе я правёў шмат дзён, шмат часу, то людзі пратэстуюць у сваіх дварах. Там уладзе значна складаней перашкодзіць людзям. Выкарыстоўваюцца праекталы, адбываюцца канцэрты, малююцца муралы.

**Беларусы дабіваюць Лукашэнку эканамічна, бо ён мусіць звяртацца па дапамогу да мноства людзей і ўтрымліваць вялізныя кадры. Трэба замалёўваць кожны мурал, ездзіць па кожны сцяг. Гэта вельмі эфектыўны пратэст**

Беларусы дабіваюць Лукашэнку эканамічна, бо ён мусіць звяртацца па дапамогу да мноства людзей і ўтрымліваць вялізныя кадры. Трэба замалёўваць кожны мурал, ездзіць па кожны сцяг.

Людзі ў свеце не разумеюць, што гэта вельмі разумны пратэст, што гэта вельмі эфектыўны пратэст.

Больш за тое, беларусы паказалі штосьці абсалютна выключнае — поўную бесканфліктнасць. Я не бачыў, каб хоць адзін чалавек крыкнуў на іншага. А мы гаворым пра сотні тысяч людзей. Не было аніводнай сваркі паміж лідарамі, лідаркамі.

## «Выйшлі дзясяткі тысяч жанчын, гэта выклікала слёзы на вачах»

А самае шакуючае — гэта роля жанчын. Ад кандыдатак апазіцыі да звычайных удзельніц мітынгаў. Я жыў некаторы час на праспекце Незалежнасці, і мяне моцна ўзрушыў першы жаночы марш пасля дзён тэрору. 12 жніўня, здаецца. Выйшлі дзясяткі тысяч жанчын, гэта выклікала слёзы на вачах. Гэта адбывалася цэлы дзень. Зноў загулі сігналы ў машынах. Горад паўстаў, вуліцы зноў перайшлі да апазіцыі. І ад той пары ў кожнай крызіснай сітуацыі на вуліцы выходзяць жанчыны.

Улада страціла розум. Вельмі доўга яна не ведала, што рабіць. АМАП быў, па сутнасці, бездапаможны. Жанчыны акружалі АМАП і крычалі: мы тут улада.

Ніна Багінская, якой я захапляюся і з якой зрабіў шматгадзіннае інтэрв'ю, яна стала маральным абавязкам: калі я, пенсіянерка, 73-гадовая, магу прыйсці на кожную дэманстрацыю, не баюся АМАПу, то гэта значыць, што можа кожны.

Я пазнаёміўся з вялікай колькасцю людзей у Беларусі, з маладымі дзяўчатамі і хлопцамі, людзьмі, якія маюць па 20 гадоў, якія шмат чым рызыкуюць. Гэта не абавязкова нейкія суперсмелыя людзі. Не кожны павінен быць адважны.

У мяне ёсць сяброўка Мара. І калі я пытаюся ў яе: Мара, ты маладая, дробная дзяўчына, вось ты пойдзеш на дэманстрацыю, нехта цябе саб'е з ног, нехта ўдарыць, з табой можа нешта здарыцца. Навошта табе гэта? Ты будзеш маладой архітэктаркай. Беларусі патрэбныя такія людзі, як ты. Не рызыкуй. Але мае сябры ў Беларусі гэтага не ўспрымаюць. Яны мне адказваюць: «Я мушу ісці. Бо калі не пайду я, то не пойдуць і іншыя».

## «У Беларусі я быў беларусам»

Беларусь была, бадай, самай малавядомай краінай Еўропы. Нават з Косава людзі штосьці асацыююць, ведаюць нейкія палітычныя партыі, лідараў. А пра Беларусь ніхто нічога не ведаў.

Я не эксперт у справе Беларусі, я паехаў у Мінск упершыню. І я паехаў адразу, бо ведаў, што тут трэба быць. Я быў на Майдане, быў у Ганконгу. Але тут, падчас пратэстаў у Беларусі, у мяне не было дыстанцыі ад гэтых падзеяў. Я не хацеў проста асвятляць дэманстрацыі, бо ў мяне такая прафесія.

У Беларусі я быў беларусам. У пэўным сэнсе я такім і вярнуўся. Мне цяпер вельмі цяжка вярнуцца да польскай палітыкі, якую я каментую для найбуйнейшага польскага часопіса і інтэрнэт-парталу ў Польшчы, дзе я выступаю як фельетаніст і публіцыст. Калі я толькі пачынаю думаць пра тое, што я мушу перастаць пісаць пра гістарычныя гігантскія дэманстрацыі, барацьбу з Лукашэнкам, і павінен вярнуцца да пісання аб тым, што адзін міністр у Польшчы сказаў пра іншага, то ў мяне знікае жаданне. Я, канечне, буду вымушаны гэта рабіць.

Свет пазнае Беларусь. Гэта момант Беларусі ў гісторыі, так як у 1980 або ў 1989 годзе быў момант палякаў, у 1968-м — чэхаславакаў. Цяпер свет будзе памятаць, што адбылося ў Беларусі ў 2020 годзе. Гэта год Беларусі.

## «Вы можаце пратэставаць доўга і рашуча»

Было вядома, што гэта будзе доўгі шлях. Больш за тое, яшчэ да выбараў я ведаў менавіта ад беларусаў, што гэта будзе доўгі шлях. Гэтыя пратэсты паказалі, беларусы ўжо гэта даказалі, што вы можаце пратэставаць доўга і рашуча.

Ніхто не спадзяецца, што ўжо заўтра Лукашэнка будзе зрынуты. Я гэтага нідзе не чуў і не бачыў. Але скажу шчыра, што я аптыміст. Вядома, я не магу сказаць, што я аб'ектыўны, бо я адчуваў сябе ўдзельнікам гэтых пратэстаў. Але я аптыміст таму, што супраць Лукашэнкі сёння практычна ўсе.

Ён можа кіраваць толькі страхам і кадрамі сілавікоў. Для гэтага трэба мець шмат грошай, а іх Лукашэнка мае нашмат менш, чым раней. Беларусы палічылі, колькі сярод іх прыхільнікаў пераменаў, яны ўбачылі, колькі іх. Беларусы даказалі сабе, што яны адважныя, што яны здольныя і што яны могуць.

Я быў на Пушкінскай, калі ў нас стралялі, я быў каля «Рыгі», я быў на плошчы Незалежнасці, калі сілавікі апусцілі шчыты. Я быў у найгоршых месцах, быў на вуліцы, калі людзей выцягвалі з машынаў і білі. Калі беларусы былі здольныя на ўсё гэта, то яны ўжо будуць здольныя на гэта заўсёды.

А Лукашэнка — не з тых палітыкаў, якія думаюць рацыянальна і прагматычна. Ён здольны рабіць памылкі. Навошта быў гэты тэрор 9, 10 і 11-га? Што гэта яму дало? Уся дзяржава выйшла супраць яго. Калі ён так зрабіў адзін раз, то зробіць і наступныя разы.

А цяпер супраць яго розныя групы ў грамадстве. Фактычна, усе, акрамя адной — акрамя спецслужбаў, АМАПу і КДБ. Супраць яго жанчыны, рабочыя, лекары, творчыя асобы. АМАП выхаваў пакаленне патрыётаў.

Каля амаль кожнай беларускай ВНУ сёння стаяць дзясяткі, а часам сотні студэнтаў. Гэта людзі, якія не здадуцца. Гэта проста беларусы, у такім сэнсе, як немцы ёсць немцамі, то-бок жадаюць для сваёй дзяржавы

**Для даведкі:**

Публіцыст і сацыёлаг Славамір Серакоўскі — адзін з самых уплывовых польскіх інтэлектуалаў. Ён рэдактар «Палітычнай крытыкі», аўтар найбуйнейшых польскіх выданняў: Gazeta Wyborcza, Polityka, Onet. Публікуецца ў New York Times, Financial Times, Foreign Policy, The Guardian, Die Zeit, Le Monde. Стыпендыят універсітэтаў Гарварду, Прынстану і Еля.

**Вядома, пры жыцці нашага пакалення Беларусь, хутчэй за ўсё, не стане часткай NATO, магчыма, не стане хутка і чальцом Еўрасаюза, але можа быць дэмакратычнай краінай. У Расіі ёсць такі досвед — Фінляндыя ў 1970–1980-х гадах. Гэта адзін з прыкладаў**




лепшага. Гэта беларускія патрыёты, яны не дазволяць Лукашэнку кіраваць вечна.

Каб кіраваць такім грамадствам дыктатарскімі метадамі, трэба мець вельмі шмат грошай. Пасля каронавіруса, у часе эканамічнага крызісу, за лаяльнасць АМАПу і КДБ, якія сустракаюцца з усё большым непрыняццем у грамадстве, трэба плаціць усё больш і мець іх усё больш.

У Беларусі, можа, на вуліцы выходзіць сёння менш людзей, але ціск і іншыя формы барацьбы з дыктатурай развіваюцца, а не спыняюцца. Тое, што робяць хакеры, што зрабіў Максімаў, тое, што робіць «Чорная кніга Беларусі», — гэта прагрэс. Прагрэс за прагрэсам, кожны дзень.

Раней ці пазней сілавікі здадуцца. Так адбываецца заўсёды. Няма дыктатураў, якія жывуць вечна.

Апроч таго, у дыктатара таксама павінна быць нейкая грамадская падтрымка. Не толькі ў дэмакратыі лідар павінен мець за сабой шмат людзей. У Лукашэнкі сёння мала людзей. І калі ён зробіць памылку, заб'е кагосьці (а ён ужо забіваў не раз), надыдзе эканамічны ціск, нешта зрушыцца і ў саміх структурах.

На гэта ўплывае і грамадскі астракізм, дэананімізацыя, пастаянны прэсінг. Гэта канкрэтыка. У апазіцыі сёння ў руках добрыя карты, і яна добра імі гуляе.

У кароткатэрміновай перспектыве Лукашэнка ўтрымаецца ва ўладзе, але я не веру, што ў яго гэта атрымаецца ў доўгатэрміновай перспектыве.

### «Пуцін не будзе паміраць за Лукашэнку»

Расія ненавідзіць Лукашэнку як сабаку. Пуцін атрымаў ад Лукашэнкі ўсе магчымыя абяцанні. У Беларусі меўся быць расійскі рубель, інтэграцыя палітычных і судовых сістэмаў. Расійскім алігархам меліся прадаць прадпрыемствы. І так 20 гадоў. І дзе ўсё гэта?

Лукашэнка, як толькі трошкі ўздымецца, зноў пачне падманваць Пуціна, і Пуцін гэта добра ведае.

Калі б Пуцін быў адданы Лукашэнку, то падтрымліваў бы яго значна раней. А Пуцін проста назіраў, ён сядзеў склаўшы рукі і глядзеў, ці пераможа кандыдат ад апазіцыі, у сэнсе — ці будзе зрынуты Лукашэнка, ці не.

Калі б Лукашэнка быў зрынуты, то Пуцін намагаўся б усталяваць адносіны з кімсьці з апазіцыі. Вядома, пры ўмове, што той будзе паважаць асноўныя інтарэсы Расіі.




Да таго ж варта памятаць, што ў Пуціна ёсць пэўны геапалітычны досвед. Ёсць украінскі сцэнар, хутчэй негатыўны для яго.

Украіна была даволі прарасійскай краінай, якая гаварыла па-руску, якая глядзела расійскую тэлевізію, якая слухала расійскую музыку, чытала расійскія кніжкі. Расія забрала Данбас, Крым, які эканамічна ў руіне, які ў свеце не прызнаюць. І ўсё гэта Расія мусіць утрымліваць, у Крыме праблемы нават з вадой. Супраць Расіі былі ўведзеныя эканамічныя санкцыі, што б ні казалі — адчувальныя, асабліва ў часы таннай нафты і эканамічнага крызісу. Што, гэта поспех?

З іншага боку, ёсць прыклад Малдовы, Арменіі і Грузіі. З аднаго боку — дэмакратызацыя, але апазіцыя там паважае інтарэсы Расіі, і гэтыя краіны застаюцца да яе прыязнымі.

Вядома, пры жыцці нашага пакалення Беларусь, хутчэй за ўсё, не стане часткай NATO, магчыма, не стане хутка і чальцом Еўрасаюза, але можа быць дэмакратычнай краінай. У Расіі ёсць такі досвед — Фінляндыя ў 1970−1980-х гадах. Гэта адзін з прыкладаў.

У Пуціна заўсёды ёсць альтэрнатывы, і ён быў падрыхтаваны да перамогі апазіцыі. Пуцін на 100% не будзе паміраць за Лукашэнку. Ён яго не выносіць і лічыць махляром. І слушна.

Я надалей лічу, што наш бок (а я заўсёды цяпер кажу — наш бок і іх бок, і так гэта асвятляю з Мінску) мае вельмі вялікія шанцы. Трэба ісці толькі наперад, пастаянны прэсінг — і раней ці пазней усё атрымаецца, я ў гэтым перакананы.

### «Улада сёння мае сур'ёзную праблему з трыма грамадскімі групамі»

Мне цяжка нешта раіць беларусам, бо беларусы нясуць нашмат больш рызыкаў. Нават калі я бегаў ад АМАПу, у найгоршыя моманты, нягледзячы на ўсё, мае рызыкі былі значна меншыя. Таму вучыць беларусаў... Ад беларусаў можна якраз вучыцца, як рабіць пратэсты.

Я бачу дзве рэчы, ці, хутчэй, фарматы, якія можна было б дадаць. Адзін — гэта студэнцкія акупацыйныя страйкі.

Я не ведаю, з якімі гэта звязана рызыкамі. Але студэнты ў Польшчы, і не толькі, звычайна абіралі формай пратэсту заняцце ўніверсітэцкіх будынкаў. Я не ведаю, як на такое адрэагаваў бы АМАП, але студэнтаў вельмі складана перамагчы. Магчыма, гэта вельмі вострая форма пратэсту, якая б стала аргументам для ўлады, што студэнты перайшлі мяжу. Мне цяжка ацаніць, не ведаю таксама, як бы на гэта адрэагавала рэшта грамадства. Але звычайна, калі студэнты пратэстуюць, то яны займаюць будынкі: застаюцца там, сядзяць, забарыкадоўваюцца ў сваіх ВНУ. Як вынік, да такой формы пратэсту далучыліся б і іншыя групы.

Па-другое, у Беларусі ёсць пратэст са страйкамі рабочых. Сапраўдных страйкаў працоўных у Беларусі было няшмат. Калі ў Беларусі кажуць пра страйк рабочых, то гэта вельмі рэдка азначае, што людзі спыняюцца і стаяць, што завод не працуе.

Улада сёння мае сур'ёзную праблему з трыма грамадскімі групамі. Яна не падрыхтаваная да гэтага, супраць іх не вучылі змагацца ні КГБ, ні АМАП. Дый увогуле іх складана перамагчы.

Гэта, па-першае, жанчыны, якіх нельга пабіць, застрэліць і пасадзіць усіх у турму.

Другая група — гэта лекары. Аўтарытэт лекара ў грамадстве, у тым ліку і ў беларускім, вельмі высокі. Без сістэмы аховы здароўя дзяржава проста не зможа функцыянаваць. Таму Лукашэнка сам сабе нашкодзіць.

І трэцяя група — рабочыя. АМАП можа пайсці на плошчу Незалежнасці і арыштаваць нас там, але ісці на завод, дзе знаходзяцца 10 тысяч рабочых, у руках якіх цяжкія прадметы, — там АМАП ужо не будзе такі смелы.

АМАП насамрэч — не такія ўжо і адважныя людзі. Калі з іх здымаюць балаклавы, то яны баяцца, як дзеці.

Сапраўдных страйкаў працоўных не хапае. Але, з іншага боку, я не ведаю, якія рызыкі нясуць такія дзеянні.

### «Захад павінен найперш дапамагаць у фінансавым плане»

Я размаўляў з Дональдам Тускам пра тое, што беларусам можна дапамагчы не толькі сімвалічна, жэстамі салідарнасці, хаця — так, яны таксама важныя.

У Беларусі такія СМІ, як «Радыё Свабода», сталі сёння мэйнстрымам, а не другой лініяй. Мэйнстрым — гэта апазіцыйныя СМІ.

Але ў той жа час выдаткі на гэтыя СМІ вельмі малыя. Гэта парадокс. У Польшчы, каб узмацніць апазіцыйныя СМІ, трэба было б выдаткаваць мільярд долараў, каб стварыць тэлевізію або вялікую газету. А ў Беларусі, каб узмацніць «Радыё Свабода» або стварыць другі TUT.BY, такія сумы не патрэбныя. І ў Захаду ёсць такія грошы.

Дональд Туск сказаў, і я за гэта яго вельмі паважаю, што беларуская апазіцыя атрымае столькі грошай, колькі ёй будзе трэба. Вядома, тут ёсць і рызыкі, бо перадача сродкаў не такая і простая.

Захад павінен найперш дапамагаць у фінансавым плане таксама і таму, што фонды салідарнасці для рабочых, сродкі, якія можна выдаткаваць, каб перакупіць АМАП або міліцыю, гарантыя сацыяльнай бяспекі чарговым прафесійным групам, — гэта тое, што можа знішчыць бар'ер перад сапраўды моцным страйкам і моцным адказам. Бо калі каго звольняць, трэба мець магчымасць яму дапамагчы.

То-бок акупацыйныя страйкі, студэнцкія, сапраўдныя рабочыя страйкі, — гэта тое, што неабходна. Але я не ведаю, ці рэальна гэта і наколькі бяспечна.

### «Пытанне часу, калі Ціханоўская выступіць у амерыканскім Кангрэсе»

Вялікае значэнне мае тое, што ёсць альтэрнатыўная галава дзяржавы. Так, яна за мяжой, але для міжнароднай супольнасці Ціханоўская значна больш легітымная, чым Лукашэнка. Лукашэнка ад гэтага вар'яцее і не можа спаць.

Давайце прызнаем, што ён не вельмі адважны мужчына. Нават я бачу, што гэта не нейкі там... Калі нехта адчувае сябе ўпэўнена і кантралюе сітуацыю, то не сядае ў верталёт, не бярэ «калашнікаў», не дае зброю сыну і не робіць такіх абсурдных сцэнаў. І тое, што ён бачыць Ціханоўскую, нейкую жанчыну, хатнюю гаспадыню, якая сустракаецца з кіраўнікамі дзяржаваў, пра што Лукашэнка можа толькі марыць...

На маю думку, гэта пытанне часу, калі Ціханоўская выступіць у амерыканскім Кангрэсе. Гэта вельмі і вельмі істотныя рэчы.

Да гэтага часу Лукашэнка мог выйграць дэмакратычна ў выбарах, якія і раней фальсіфікаваў. Але ён не мог вытрымаць сітуацыю, што існуе не толькі нейкая апазіцыя, нават так званая «канструктыўная» кішэнная апазіцыя, такая, як Жырыноўскі або Зюганаў у Расіі. Але не было ніводнага палітыка ў дзяржаве, які не з'яўляецца Лукашэнкам. А цяпер такі чалавек ёсць, гэта сур'ёзная асоба, якая будзе ведаць усіх кіраўнікоў сур'ёзных дзяржаваў. І гэтая асоба ў стане звяртацца, будзіць свядомасць, нагадваць пра беларускія справы, весці перамовы ад імя беларускай апазіцыі і пастаянна падтрымліваць кантакт свету з Беларуссю.

**Друкуецца ў скароце**

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**

# «Гэта мы — крыніца ўлады»

## Сям'я Міронавых спрабуе змяніць сістэму адукацыі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Сям'я Міронавых — інтэлігентныя людзі без кепскіх звычак, для якіх шчасце і дабрабыт дзяцей — на першым месцы. Але яны зацята адстойваюць свае правы — і за гэта ім давялося перажыць выкраданне і змяшчэнне ў прытулак маленькай дачкі, прызнанне сям'і недабранадзейнай і пастаноўку на СНС.**



Фота Дзіяны Серадзюк

Сям'я Міронавых, злева направа: тата Эдуард, мама Таццяна, Эльвіра, брат Ральф

### Заставацца ў школе стала небяспечна

Пад пільную ўвагу сям'я Міронавых трапіла яшчэ ў 2002 годзе, калі старэйшы сын Ральф паступіў у першы клас мінскай школы № 212.

— З гэтага моманту пачалося парушэнне нашых правоў, — узгадвае Таццяна Міронава. — Былі грашовыя пабора, падзел у класе на любімчыкаў і няўгодных і, галоўнае, каласальная нагрузка, якая адбілася на здароўі сына. Калі ён заканчваў 11-ты клас, яго зрок знізіўся настолькі, што пры выбары прафесіі нам давялося арыентавацца на яго стан здароўя, і ён не змог рэалізаваць сябе ў той прафесіі, пра якую марыў.

Па словах Таццяны, бацькі ўвесь час прасілі альбо зменшыць нагрузку, альбо перасадзіць сына на першую парту, але гэтыя просьбы ў школе ігнаравалі.

У 2016 годзе ў гэтую ж школу пайшла малодшая дачка Міронавых Эльвіра.

— Нашыя абгрунтаваныя звароты і заўвагі ў частцы санітарных нормаў, заканадаўства аб зваротах грамадзян, былі прызнаныя на ўзроўні адміністрацыі Фрунзенскага раёна. Высветлілася, што ў 2016 годзе школа да адукацыйнага сезона не была гатовая.

Тагачаснага дырэктара школы і яго намеснікаў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці за антысанітарыю. Але, па словах Таццяны, у школе супраць яе зладзілі правакацыю: калі жанчына прыйшла забраць дачку з заняткаў, настаўніца выклікала на яе міліцыю і заявіла, што Таццяна хуліганіць у школе, палохае дзяцей і зрывае ўрок фізкультуры. Двое міліцыянтаў скруцілі Таццяне рукі на вачах у дачкі і старэйшага сына, які пачаў быў здымаць усё на відэа, але яму таксама прыгразілі затрыманнем. Таццяну адвезлі ў аддзяленне міліцыі, а потым — у суд.

— Судовае пасяджэнне доўжылася некалькі тыдняў. Я даведалася, што класны кіраўнік разам з дырэктарам школы напісалі на мяне заяву аб зрыве ўрока фізкультуры, хаця я там у той час увогуле не была, — распавядае Таццяна Міронава.

Тым не менш, суд аштрафаваў Таццяну Міронаву за хуліганства на 63 рублі.




Эльвіра з пахвальнымі граматамі за добрую і выдатную вучобу ў 3 і 4 класе

— Пасля гэтага мы зразумелі, што больш у гэтай школе заставацца нельга, гэта небяспечна.

### Дзіця скралі з кватэры на вачах у бацькоў

У лістападзе бацькі Эльвіры падалі заяву на залічэнне дачкі ў суседнюю 217-ю школу, але там ім адмовілі, бо не было месцаў. У іншых школах раёна, куды звярталіся Міронавы, яны чулі тое ж самае: «Для вашай дачкі месца няма». Урэшце камітэт па адукацыі вырашыў, каб Эльвіру Міронаву ўсё ж залічылі ў 217-ю школу. Гэта адбылося толькі ў красавіку 2017 года.

— Начальнік упраўлення адукацыі Чарняўская паставіла нам абавязковую ўмову, каб мы падалі заяву на навучанне па індывідуальнай форме, — працягвае Таццяна Міронава. — Пасля таго, як Эльвіра была залічана ў школу, дырэктар сумесна з адміністрацыяй раёна прынялі абразлівае для нашай годнасці і гонару рашэнне прызнаць, што ўся наша сям'я з чатырох чалавек нядобранадзейная.

Але на гэтым ціск на Міронавых не скончыўся. 31 жніўня 2017 года ў 15.30 у іх кватэру ўварваліся, выламаўшы дзверы і выклікаўшы хуткую дапамогу, каля васьмі чалавек. Нагодай паслужыла хлусліваe паведамленне, нібыта нейкае 10-гадовае дзіця спрабуюць выкінуць з акна.

— Яны ўварваліся ў цывільным адзенні, не прад'явіўшы дакументы. З імі былі двое супрацоўнікаў міліцыі, якія чамусьці сказалі, што яны з крымінальнага вышуку. За імі — супрацоўнікі хуткай дапамогі, хапаюць Эльвіру, перашэптваюцца паміж сабой. З імі нейкая жанчына — пазней мы даведаліся, што гэта намеснік старшыні камісіі па справах непаўналетніх Захарэўская, — якая дае ім сігнал, што ўсё нармальна, і яны хуценька збягаюць. Яны проста скралі Эльвіру, ёй тады было 8 гадоў. Гэтыя адчуванні не перадаць, майму абурэнню няма межаў. Я пастаянна чую істэрычны крык Эльвіры: «Не чапайце мяне! Я не хачу нікуды ехаць!» Гэтаму не можа быць ніякага даравання, — з хваляваннем у голасе ўзгадвае маці.

Пасля гэтага бацькам заявілі, што дзіця ў іх адабранае. Дзяўчынку звезлі ў прытулак Фрунзенскага раёна, дзе яна правяла 4 месяцы. Паводле дэкрэта №18, праз 6 месяцаў, калі бацькі не «выпраўляюцца», органы апекі могуць звярнуцца ў суд з позвай аб пазбаўленні бацькоў бацькоўскіх правоў. Але бацькі настолькі самааддана змагаліся за дачку ў судах, што Эльвіру ўсё ж вярнулі ў сям'ю.

Як высветлілася, Эльвіру забралі ў прытулак, бо нібыта бацькі замінаі дзяўчынцы атрымліваць адукацыю.

— У той жа дзень, калі Эльвіру адабралі, мы знайшлі ў паштовай скрыні ліст, у якім дырэктар школы запрашала нас з дачкой на ўрачыстую лінейку заўтра, 1 верасня. Таксама там было ўказана, што рашэннем педсавета Эльвіру зноў пакінулі ў 1 класе, — распавядае Таццяна Міронава.

Гэтае рашэнне бацькі абскардзілі, і Эльвіру атэставалі. Настаўнікі былі ўражаныя: займаючыся дома, па тэхніцы чытання дзяўчынка абагнала ўвесь клас.

### Выдатная вучоба і... пастаноўка на СНС

— На той момант, калі Эльвіра была ў прытулку, яна ўжо вывучала англійскую мову, таму мы казалі, каб яе адпускалі, бо замінаюць ёй, — уключаецца ў размову тата Эльвіры Эдуард Міронаў.

Ён перакананы, што сучасная школьная адукацыя разбурае індывідуальнасць дзіцяці, а таксама сямейныя каштоўнасці і культуру. Сістэма адукацыі, на думку Эдуарда Міронава, замінае дзецям быць самастойнымі, яны стамляюцца і амаль не бавяць час з сям'ёй. Таму Міронавы, для якіх спачатку перавод дачкі на індывідуальнае навучанне быў вымушанай мерай, паступова ацанілі ўсе яго плюсы і цяпер змагаюцца за тое, каб Эльвіра працягвала вучыцца дома з бацькамі.

— Сем'і могуць пераводзіць дзяцей на індывідуальнае навучанне часткова, але ім гэтага ніхто не прапануе. Школа — не панацэя. Усе дзеці ад пачатку таленавітыя, але нежаданне вучыцца фарміруецца менавіта ў класах, — гаворыць Эдуард.

Пасля таго, як бацькі змаглі забраць Эльвіру, яны вырашылі працягваць яе адукацыю ў 16-й школе, дзе вучацца дзеці, якіх забіраюць у прытулак. Калі Эльвіра была ў 3 класе, сям'я вырашыла, што з другой чвэрці яна будзе займацца ў школе часткова: тры дні на тыдзень наведваць заняткі, два — займацца дома.

— Гэта вызваляе час на творчасць і пашырэнне кругагляду. Мы накіравалі запыт у Міністэрства адукацыі і атрымалі адказ, што гэта магчыма. Нам растлумачылі, як гэта зрабіць, і мы звярнуліся да дырэктара школы. Але яна проста не разглядала нашу заяву. Толькі наша настойлівасць прывяла да таго, што з трэцяй чвэрці было прынята рашэнне аб пераводзе Эльвіры на часткова індывідуальны план навучання. Дырэктар Стрэльнікава была прыцягнутая да дысцыплінарнай адказнасці за тое, што парушыла нашы правы і правы Эльвіры, праявіла валакіту, — распавядае Таццяна Міронава.

Па яе словах, дачцэ вельмі спадабалася такая форма навучання, яна стала менш стамляцца, больш займацца творчасцю, спортам і іншымі інтарэсамі, якіх у дзяўчынкі вельмі шмат. Трэці клас Эльвіра скончыла з "дзявяткамі" і "дзясяткамі" і пахвальнай граматай.

Калі Эльвіра перайшла ў чацвёрты клас, яна папрасіла бацькоў пра поўны перавод на індывідуальнае навучанне. З 1 верасня 2019 года дзяўчынка стала навучацца індывідуальна.

— Але нас пакінулі сам-насам з навучальным працэсам: нам даслалі толькі загад і расклад заняткаў — колькі гадзін у тыдзень адводзіцца на кожны прадмет, — называючы гэта «індывідуальным планам», — гаворыць Таццяна.

Паўтара месяца бацькі дабіваліся расшыфроўкі гэтага «плана». Пасля яны прапанавалі адміністрацыі школы ўзгадніць форму атэстацыі Эльвіры. У заканадаўстве месца атэстацыі не вызначана — яна можа адбывацца нават дома. Міронавы прапанавалі праводзіць яе дыстанцыйна, да таго ж пачаўся каронавірус. Але школа адмовілася ад такой формы. Пры гэтым з установы адукацыі ні разу нават не патэлефанавалі і не пацікавіліся, як у Эльвіры ідуць справы.

— І раптам у сакавіку з ініцыятывы дырэктара школы мы даведваемся, што Эльвіра паводле рашэння каардынацыйнага савета прызнаная дзіцем, якое знаходзіцца ў сацыяльна небяспечным становішчы (СНС). Прычынай стала перашкода ў атрыманні адукацыі бацькамі дзіцяці, — усміхаецца Таццяна.

Што праўда, пасля гэтага школа ўсё ж арганізавала дыстанцыйную атэстацыю, якую Эльвіра паспяхова — з вынікамі 9 і 10 — прайшла ў тэрмін. Дзяўчына атрымала чарговую грамату, а ў чэрвені каардынацыйны савет адмяніў рашэнне аб пастаноўцы сям'і на СНС.

### «Давайце рэальна паказваць дзяржаве, што гэта мы — крыніца ўлады»

— Напэўна, я адкрыю таямніцу, калі скажу, што ў за-



Такія цацкі Эльвіра з мамай Таццянай робяць сваімі рукамі



Хатні гадаванец Эльвіры трусік Роджэр

канадаўстве няма абавязку дзіцяці наведваць школу. Гэта наша законнае права — выбар індывідуальнай формы навучання з дыстанцыйнай атэстацыяй. Для пераводу на індывідуальнае навучанне не можа быць ніякіх «паважлівых прычын», выбар формы навучання — гэта гарантаванае права, устаноўленае Кодэксам аб адукацыі, — зазначае Таццяна Міронава.

Аднак сёння Эльвіры адмаўляюць у індывідуальным навучанні. Дырэктар школы не проста не задаволіла заяву бацькоў, а даслала паведамленне, што спыняе перапіску з імі. Таму Міронавы цяпер звярнуліся са скаргай наўпрост у Міністэрства адукацыі. Эльвіра ж працягвае навучацца дома і гаворыць, што ў школе сяброў у яе няма. Ёй падабаецца вучыцца індывідуальна і самой планаваць свой дзень. Дзяўчынка вывучае матэматыку, астраномію, хімію, геаграфію і іншыя прадметы, многія з якіх у школе ўводзяць у старэйшых класах.

— Мы сваёй грамадзянскай пазіцыяй і досведам робім унёсак у развіццё сістэмы адукацыі, у змену спажывецкага стаўлення педагагічных работнікаў да бацькоў і дзяцей на паважлівае і гуманнае, — падкрэслівае Таццяна Міронава.

Нягледзячы на тое, што патрабаванні сям'і цалкам законныя, яны працягваюць жыць у пастаянным напружанні. Але адмовіцца ад сваіх правоў яны не могуць. І гэта тычыцца не толькі адукацыі дачкі. Так, Міронавы не аплачваюць у поўным аб'ёме паслугі ЖКГ, бо не задаволены іх якасцю. Некалькі разоў яны падавалі позвы ў суд на ЖЭС і выйгравалі працэсы.

— Давайце не проста хадзіць з балонікамі і кветкамі па выхадных, а рэальна паказваць дзяржаве, што гэта мы — крыніца ўлады. Чыноўнікі існуюць для людзей, а не людзі для іх, — заяўляе сям'я Міронавых.

Не дзіўна, што ў такой сям'і 11-гадовая Эльвіра марыць стаць прэзідэнтам, калі вырасце. «Бо я хачу, каб усе людзі жылі добра і не было таго, што адбываецца цяпер», — тлумачыць свой выбар дзяўчынка.

«Новаму Часу» не ўдалося атрымаць каментарый у дырэктара школы Тамары Стрэльнікавай, паколькі на момант падрыхтоўкі матэрыялу яна была ў адпачынку.

# Адкрыты зварот сям'і Міронавых да міністра адукацыі Ігара Карпенкі

Наша сям'я заўсёды актыўна адстойвала і адстойвае свае правы і правы сваіх дзяцей на свабоду выбару, на свабоду выказвання меркавання, перакананняў, поглядаў, на захаванне і павагу нашых законных правоў і ахоўваемых законам інтарэсаў службовымі асобамі дзяржаўных органаў.

Па гэтай прычыне наша сям'я неаднаразова зведвала пераслед і гвалт з боку дзяржаўных органаў і асобных службовых асоб: нас неаднаразова прызнавалі «недабранадзейнай сям'ёй», неабгрунтавана ставячы ў нейкае «сацыяльна небяспечнае становішча», а ў жніўні 2017 года шляхам уварвання ў нашу кватэру нашу 8-гадовую дачку Эльвіру выкралі і ўтрымлівалі ў прытулку Фрунзенскага раёна г. Мінска на працягу 4-х месяцаў.

Такім вельмі агрэсіўным, бесчалавечным спосабам пэўныя службовыя асобы вырашылі схаваць выяўленыя намі сур'ёзныя парушэнні нашых правоў сістэмай адукацыі.

Мяркуем, што вам — міністру адукацыі РБ — пра гэты абуральны факт гвалту і выкрадання дзіцяці Міронавай Эльвіры з нашай сям'і добра вядома, аднак вы засталіся абыякавым да трагедыі, што напаткала нашу сям'ю ў 2017 годзе, і тым самым выраклі Эльвіру на доўгія пакуты прымусовым утрыманнем у прытулку. І як бы вашы супрацоўнікі бессаромна ні адпісваліся, цынічна прыкрываючы бесчалавечныя дзеянні вінаватых асоб фразамі «ў мэтах абароны правоў і інтарэсаў непаўналетняй», ні спынялі з намі перапіску, — гэта злачынства супраць сям'і, дзяцінства і чалавечнасці ніколі не будзе забытае намі, гэтаму няма прабачэння!

У ліпені 2019 года намі разам з Эльвірай была абраная індывідуальная форма навучання, пра што дырэктару ДУА СШ № 16 г. Мінска Стрэльнікавай была пададзена заява, без указання заканчэння тэрміну яе дзеяння (г.зн. бестэрміновая). Нягледзячы на тое, што Стрэльнікава ўвесь мінулы навучальны год усяляк замінала нам вучыцца па дадзенай форме, перашкаджала нашаму выбару, а за нашае законнае патрабаванне аб правядзенні дыстанцыйнай формы атэстацыі (асабліва ў перыяд каронавіруса) прызнала разам са сваімі бессаромнымі супрацоўнікамі нашу дачку ў «сацыяльна небяспечным становішчы», Эльвіра скончыла чацвёрты клас на «выдатна» (таксама як і папярэдні трэці), з чарговай пахвальнай граматай, пацвердзіўшы тым самым і свае здольнасці па самастойным вывучэнні школьнай праграмы, і свае талент і адоранасць. І ўсё гэта ва ўмовах каласальнага нервовага напружання, хвалявання і страху за Эльвіру і нас, за свае бяспеку і жыцці, якія нам стварылі вашыя бессаромныя педагагічныя работнікі! Ваша сістэма адукацыі перашкаджала нашаму навучанню, тэрарызавала нас на працягу ўсяго мінулага навучальнага года, а мы пры гэтым яшчэ прымудрыліся пры такім нялюдскім стаўленні з боку супрацоўнікаў школы № 16 г. Мінска дасягнуць высокіх вынікаў навучання, за якія нас паставілі ў СНС, а затым узнагародзілі граматай за гэтыя ж поспехі! Задумайцеся пра тое, што вы і вашы падначаленыя робіце з намі — прыстойнымі грамадзянамі і нашымі дзецьмі! Вы трымаеце нас у закладніках вашай антыгуманнай жорсткай сістэмы адукацыі, ужываючы да нас самыя выдасканаленыя метады гвалту!

У цяперашні час у бягучым навучальным годзе Стрэльнікава наўмысна зрывае працэс навучання Эльвіры па абранай намі індывідуальнай форме навучання, адмаўляючыся арганізоўваць індывідуальнае навучанне і накіроўваць індывідуальны план, аднак мы працягваем вучыцца індывідуальна, самастойна па праграме пятага класа. Тым самым гэта асоба рыхтуе чарговае супрацьпраўнае дзеянне — мэтанакіравана замахваючыся на нашы законныя правы на бяспеку, на шчаслівае дзяцінства Эльвіры, на адзінства і цэласнасць нашай сям'і.

Заканадаўствам аб адукацыі дакладна вызначаны падставы для спынення навучання па індывідуальнай форме, і дырэктар школы № 16 г. Мінска Стрэльнікава выдатна бачыць іх адсутнасць і немагчымасць прымянення гэтых падстаў да нас. Аднак яна сумесна з іншымі супрацоўнікамі школы груба топча нашы правы, гарантаваныя нам, даводзячы сітуацыю да бязмежжа ўласным свавольствам і невуцтвам!

Патрабуем правесці службовае і сацыяльнае расследаванне ў дачыненні да дырэктара ДУА СШ № 16 г. Мінска Стрэльнікавай, яе намеснікаў Бандарэнка, Краевай і іншых асоб, што свядома і наўмысна перашкаджаюць нам і нашай дачцэ Эльвіры ў атрыманні адукацыі па абранай намі яшчэ ў 2019 годзе індывідуальнай форме навучання. Дадзеныя асобы павінны быць прызнаныя нядобранадзейнымі і сацыяльна небяспечнымі суб'ектамі з прычыны пастаяннага парушэння імі нашых правоў, свабод і інтарэсаў, прапаганды і выкарыстання гвалту ў дачыненні да нас і нашай дачкі, праследу нас за нашы погляды, перакананні, за сумленную і прынцыповую грамадзянскую пазіцыю, за распаўсюд аб нас заведама ілжывых выдумак у дзяржаўных органах. Названыя супрацьпраўныя дзеянні накіраваны на распальванне варожасці, сацыяльнай няроўнасці, і разам з паклёпам, неаднаразовымі спробамі ўварвання ў наша жытло, прымусам да адмовы ад сваіх правоў, да выканання абавязкаў, якія не прадугледжаны Законам, пагрозамі пакідання Эльвіры на паўторны год навучання, з прызнаннем нашай сям'і нядобранадзейнай з'яўляюцца цяжкімі крымінальна каральнымі дзеямі, тэрмінаў даўнасці па якіх няма.

У той час як у жніўні бягучага года многія настаўнікі асудзілі гвалт, Стрэльнікава, злоўжываючы сваім службовым становішчам, сумесна са сваімі супрацоўнікамі — Бандарэнка, Краевай, Бяловай, Півень, Маўчун, Паплеўкай — пераследуюць нашу сям'ю, робяць беззаконне, замінаючы нам жыць, працаваць, вучыцца, ператвараючы наша жыццё ў кашмар, прымушаючы нас жыць па сваіх надуманых няправільных паняццях і ўкараняючы нам свае правілы. У адпаведнасці з Кодэксам РБ «Аб адукацыі» дзяржаўная палітыка ў галіне адукацыі грунтуецца на прынцыпах: прыярытэту правоў чалавека, агульначалавечых каштоўнасцяў, гуманістычнага характару адукацыі, забеспячэння правоў і свабод асобы ў адукацыі, стварэння неабходных умоў для задавальнення запытаў асобы ў адукацыі. Нашы правы на адукацыю забяспечваюцца шляхам прадастаўлення нам гарантаваных Законам правоў на выбар формы навучання, узроўню засваення вучэбных прадметаў, навучальных дысцыплін, з улікам індывідуальных запытаў, здольнасцяў і жаданняў навучэнца. І ніякая Стрэльнікава і да яе падобныя не маюць права вырашаць за нас і нашых дзяцей, як нам вучыцца і жыць, што вывучаць і ў якім аб'ёме, прымушаючы нас — культурных пісьменных інтэлігентных людзей — жыць па сваіх надуманых «паняццях».

Такія асобы заплямілі і рэпутацыю навучальнай установы, і рэпутацыю прафесіі настаўніка з прычыны адсутнасці ў іх чалавечнасці, чуласці, культуры і інтэлекту.

Гэтыя асобы не маюць права займацца педагагічнай дзейнасцю і павінны быць вызваленыя ад сваіх пасадаў без права працаваць у сістэме адукацыі.

Дадзены зварот з'яўляецца адкрытым і публікуецца намі для шырокага кола грамадскасці з мэтай агалоскі, прадухілення гвалту і магчымых супрацьпраўных дзеянняў з боку работнікаў СШ № 16 г. Мінска, адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Мінска і сістэмы адукацыі ў цэлым, і прыцягнення ўвагі СМІ да беззаконня і парушэння правоў сям'і і дзіцяці.

Адукацыя павінна быць ЧАЛАВЕЧНАЙ! Без гэтага галоўнага прынцыпу пісьмо, матэматыка, літаратура, маляванне, геаграфія і іншыя навучальныя прадметы не маюць ніякага значэння, бо гісторыя ведае нямала прыкладаў таго, як асобы з добрай адукацыяй ужывалі атрыманыя веды ў самых выдасканаленых формах для гвалту і запалохвання людзей.

# Ці дадуць партыям пакіраваць?

Алег НОВІКАЎ

**Лукашэнка абяцае падняць статус партый ледзь не шляхам пераходу на выбары па партыйных спісах. Аднак, па некаторых ацэнках, нельга выключаць, што ў выніку мы атрымаем хутчэй шматпартыйную сістэму, якая практыкавалася ў былых краінах сацыялізму.**

«Сёння партыйная сістэма ў Беларусі знаходзіцца ў каматозным стане. Па сутнасці, яе давядзецца ствараць з нуля», — прызнаўся днямі адзін з афіцыёзных палітолагаў. Ідэя наўрад ці належыць аўтару цытаты — з улікам таго, што раней Лукашэнка асабіста абяцаў перарэгістрацыю ўсіх існуючых партый. Гэта дазваляе дапусціць, што дзесьці ў нетрах сістэмы спее план стварэння цалкам праўладнага партыйнага пейзажу. Такія сістэмы сёння існуюць у Азербайджане і Узбекістане, дзе ўсе партструктуры, нягледзячы на нейкія супярэчнасці, абавязаныя быць лаяльнымі кіраўніку.

Аднак найбольш комплексна мадэль лаяльнай шматпартыйнай сістэмы была адбудаваная ва ўсходнееўрапейскіх краінах — сатэлітах СССР з 1945 па 1989 год. Неабходнасць стварэння такой схемы была прадыктаваная аб'ектыўнымі выклікамі. Пачаць можна з таго, што мадэль, дзе ёсць толькі адна партыя накшталт КПСС, не пасавала лакальнай палітычнай культуры.

Па-другое, на першых этапах будаўніцтва сацыялістычнай дзяржаўнасці камуністы ў многіх краінах не ўяўлялі сабой дамінуючую грамадскую сілу. «Элегантна» намаляваць сабе на выбарах велізарную лічбу было рызыкоўна. А вось перамога шырокай шматпартыйнай кааліцыі з удзелам камуністаў выглядала не такім ужо дзівам.

Таму пасля вайны ва Усходняй Еўропе ішло актыўнае фарміраванне падобных блокаў. Напрыклад, у савецкай зоне акупацыі Германіі любая зарэгістраваная партыя была абавязаная ўступіць у Антыфашысцкі дэмакратычны блок, дзе ўсім кіравалі камуністы. У той блок у выніку нават запісалі мясцовых хрысціянскіх дэмакратаў і лібералаў, якія ў заходняй Германіі лічыліся ваяўнічымі антыкамуністамі.

Пасля замацавання камуністаў ва ўладзе гэтыя так званыя «партыі па блоку» не ліквідавалі. Хаця б для падтрымання антуражу наяўнасці дэмакратыі ў вачах заходніх бюргераў. Таму падобным «апазіцыянерам» быў забяспечаны стабільны выезд за мяжу. Як вынік, на нейкім этапе трапіць у кіраўніцтва такіх партый у чымсьці было вельмі прэстыжна. Кар'ерны ліфт тут быў прасцейшы, чым у партыі камуністаў, хаця б праз малую колькасць сяброў. Аднак пры гэтым чалавек, які ішоў у «партыі па блоку», павінен быў ясна разумець: доступу да рэальнай улады ў краіне яму ўжо не бачыць.

Відавочна, што ніякай ролі ў прыняцці палітычных рашэнняў такія партыі не адыгрывалі. На выбарах кандыдатаў ад такіх арганізацый уключалі ў агульны спіс кандыдатаў ад блока. Больш за тое, часта гэтыя фарміраванні на ўзроўні праграмных дакументаў нават адмаўляліся ад канкурэнцыі з камуністамі, завочна прызнаючы іх кіруючую ролю ў грамадстве. У той жа ГДР быў кур'ёзны выпадак, калі камуністу даручылі кіраваць хрысціянскімі дэмакратамі.

**У Кітаі аж восем «апазіцыйных» партый. Ёсць такія партыі і ў КНДР — самай таталітарнай краіне свету. Акрамя афіцыйнай Партыі Працы, у выбарах удзельнічаюць эсдэкі, партыя грамадзян КНДР, якія жывуць у Японіі, і экзатычная Партыя маладых сяброў нябеснага шляху**

Цікава, што дзе-нідзе такія партыі дапускалі ва ўрад. Напрыклад, у той жа ГДР звычайна адну з 45 міністэрскіх пасадаў займаў «апазіцыянер». Зрэшты, яго прысутнасць у Саўміне ні на што не ўплывала, бо ўрад падпарадкоўваўся рашэнням Палітбюро кампартыі. Затое ў парламенце Усходняй Германіі квота ад «партый па блоку» часам складала да 40 працэнтаў. Зрэшты, з улікам дэкаратыўнай прыроды сацыялістычнага парламентарызму, гэта ўсё было «пацёмкінскай вёскай».

Цікава, што сяброўства ў блок-партыях таксама разглядалася як легальны спосаб выказаць сваю нязгоду з дыктатурай. Падаючы заяву ў такую партыю, грамадзянін фактычна адкрыта дыстанцыяваўся ад кіруючай партыі. Не дзіўна, што такія канторы былі нашпігаваныя агентамі спецслужбаў, якія часам займалі высокія партыйныя пасады.

Нарэшце, наяўнасць «партый па блоку» дазваляла інтэграваць у існуючую сістэму групы насельніцтва, якія традыцыйна былі як мінімум асцярожна настроеныя да рэжыму камуністаў. Напрыклад, у Польшчы прысутнасць у Сейме каталіцкай партыі легітымізавала дзяржаўны лад у вачах вернікаў. У ГДР для таго, каб сацыялізаваць экс-нацыстаў і былых салдат Вермахта, дапусцілі існаванне партыі нацыянал-дэмакратаў.

У Кітаі даводзіцца дапускаць у парламент партыю Гаміньдан, з якой у свой час змагаўся Маа Цзэдун. У дадзеным выпадку такім чынам, хутчэй, прызнаецца гістарычная роля Гаміньдана ў Сіньхайскай рэвалюцыі 1911–1913 гадоў — важнай частцы агульнага камуністычнага міфа.

Дарэчы, у камуністычным Кітаі аж восем «апазіцыйных» партый. Больш за тое, дзейнічаюць яны і ў КНДР — самай таталітарнай краіне свету. Акрамя афіцыйнай Партыі Працы, у выбарах удзельнічаюць эсдэкі, партыя грамадзян КНДР, якія жывуць у Японіі, і экзатычная Партыя маладых сяброў нябеснага шляху, якая складаецца з паслядоўнікаў рэлігіі чхандагё.

Як бачым, сістэма шматпартыйнасці з «партыямі па блоку» дасюль існуе. Аднак для аматараў перанесці гэты вопыт у Беларусь трэба нагадаць адзін важны момант. Пры найменшых адзнаках дэстабілізацыі сітуацыі падобныя партыі вельмі хутка здраджваюць і пачынаюць гуляць аўтаномна. Напрыклад, у Чэхаславакіі падчас Аксамітнай рэвалюцыі чальцы Хартыі атрымалі прытулак у офісах Нацыянальна-сацыялістычнай партыі. У 1989-м у Польшчы фракцыя Сялянскай партыі нечакана здрадзіла камуністам і падтрымала кабінет лібералa Мазавецкага.

Таму аўтарам анансаванай партыйнай рэформы ў Беларусі лепш не выдумляць ровар. Даражэй атрымаецца.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Не выключаны варыянт, што Лукашэнка будзе і сам балатавацца на пазачарговых выбарах, разлічваючы, што гэта не выкліча пратэсты маштабу бягучага палітычнага крызісу. Улада можа разлічваць на гэта па прычыне канстытуцыйнай рэформы, якая падаецца ёй як кампраміс і агульнанацыянальны дыялог. Аднак гэты варыянт магчымы толькі ў выпадку, калі змены Асноўнага закона абмяжуюць колькасць прэзідэнцкіх тэрмінаў да двух для адной асобы. Адсутнасць такіх абмежаванняў справакуе пратэсты з новай сілай, і ніяк не будзе спрыяць стабілізацыі становішча».

**Украина.Ру (Расія)**

«Для Масквы апошнія падзеі ў Беларусі сталі перасцярогай: яны сведчаць пра няўстойлівасць яе аўтарытэту сярод суседзяў. Гэта вельмі нагадвае 2014 год, калі Украіна сышла з расійскай арбіты. Некаторыя добразычліва настроеныя да Пуціна беларусы адвярнуліся ад яго, калі ён падтрымаў Лукашэнку на хвалі пратэстаў».

**The New York Times (ЗША).**

«У Беларусі нарадзілася грамадзянская супольнасць, і гэта заўважна, напрыклад, у жылых раёнах, дзе людзі сустракаюцца, разам ядуць, слухаюць канцэрты, таму што падтрымаць іх туды часта прыязджаюць дзеячы мастацтва. Гэты працэс ужо не дазволіць краіне вярнуцца ў ранейшы стан. Магчыма, маштабныя пратэсты спыняцца, але адчуванне салідарнасці на месцах ужо нікуды не знікне. Мы не ведаем, чым скончыцца справа, ці будзем мы святкаваць Каляды з Лукашэнкам, ці ўжо без яго. Але факт у тым, што ў Беларусі здарыўся цуд, якога ніхто не чакаў».

**Aktuality (Славакія)**

«Да гэтага часу адзіным суб'ектам беларускай палітыкі быў Лукашэнка. Гэта давала яму магчымасць без праблем парушаць дамоўленасці з расіянамі, ведаючы, што ў іх няма іншага партнёра ў Беларусі. Затое пасля канстытуцыйных зменаў можа з'явіцца шэраг канкуруючых цэнтраў уплыву, якія ў барацьбе адзін з адным будуць звяртацца па дапамогу да Масквы. Такімі цэнтрамі сілы могуць быць як цяперашнія высокапастаўленыя чыноўнікі, так і прадстаўнікі апазіцыі. Тут важна нагадаць, што, у адрозненне ад папярэдніх выбараў, на гэтых выбарах апаненты Лукашэнкі мелі яркі расійскі бэкграўнд».

**Європейська праўда (Украіна)**

«Інтарэсы Кітая ў Беларусі залежаць ад агульнай стабільнасці краіны, а не толькі ад аднаго палітыка. Таму Пекін не будзе пашыраць інвестыцыі або крэдыты для Беларусі толькі для таго, каб падтрымаць Лукашэнку як лідара. Самай вялікай перашкодай для імкнення Мінска пашырыць супрацоўніцтва з Пекінам з'яўляецца, паводле іроніі лёсу, адчужэнне Лукашэнкі ад Захаду. Кітай ужо даўно разглядае Беларусь як патэнцыйную кропку ўваходу сваіх тавараў на еўрапейскі рынак з-за геаграфічнага становішча краіны. Але пакуль Беларусь не нармалізуе адносіны з Захадам, яна будзе мала цікавая буйным кітайскім кампаніям, для якіх выхад на заходнія рынкі сёння з'яўляецца галоўным прыярытэтам».

**Nikkei Asia (Японія)**

«Лукашэнка сустрэўся з часткай лідараў апазіцыі ў турме, дзе яны па-ранейшаму знаходзяцца. Гэта яшчэ не паўнавартасны "круглы стол", падчас якіх у канцы 1980-х гадоў перадавалася ўлада апазіцыі ў Чэхаславакіі і Венгрыі, але гэта ўжо сёе-тое. Ва ўсялякім разе, Лукашэнка паступова разумее, што яго ўладзе прыйшоў канец. Складанасць у тым, што ён, вядома, можа дамовіцца пра недатыкальнасць для сябе і сям'і, і нават, магчыма, пра захаванне нейкіх сімвалічных элементаў улады. Але ён не можа дамовіцца практычна ні пра што для сілавікоў».

**Newsru (Расія)**



# 20 гадоў забойства Гангадзэ

Алег НОВІКАЎ

**Масавыя затрыманні журналістаў у Беларусі парадаксальна супалі з 20-й гадавінай выкрадання ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ, труп якога абезгаловілі. Праз два дзесяцігоддзі пасля забойства каментатары кажуць, што смерць журналіста змяніла гісторыю Украіны.**

Што нам дакладна вядома пра тое, што адбылося 20 гадоў таму? Вядома, што ўлетку 2000-га Георгій Гангадзэ, заснавальнік інтэрнэт-выдання «Украінская праўда», звярнуўся ў пракуратуру з заявай, што за ім сочаць. Ён звязаў «хвост» са сваімі крытычнымі публікацыямі на адрас прэзідэнта Кучмы. 16 верасня 2000 года ўвечары ён выйшаў ад сваёй калегі Алены Прытула і ўжо не вярнуўся. Праз паўтара месяца, 2 лістапада, у 70 кіламетрах ад Кіева было знойдзена цела журналіста без галавы.

Па справе аб забойстве ў 2012–2013-м былі прызнаныя вінаватымі супрацоўнікі Дэпартамента знешняга назірання МУС. Галоўную ролю ў забойстве, быццам, згуляў генерал Аляксей Пукач, які атрымаў пажыццёвы тэрмін. Лічыцца, што ён і яго падначаленыя вывезлі Гангадзэ за межы Кіева, выцягнулі з машыны, звязалі і задушылі. Цела скінулі ў выкапаную яму. Пазней Пукач перапахаваў яго і адрэзаў галаву, каб заблытаць сляды.

Як бачым, канчатковыя заказчыкі забойства не названыя. У турме сядзяць толькі выканаўцы. Хапае спекуляцый, што замоўцам быў экс-міністр МУС Юрый Краўчанка. Але на час суда над Пукачам ён пяць гадоў як скончыў жыццё самагубствам.

Пры гэтым з тым суіцыдам Краўчанкі таксама ўсё загадкава. Не выключаюць, што экс-кіраўнік МУС быў забіты. Як кажуць эксперты, характар першага ранення не дазволіў бы яму дзейнічаць мэтанакіравана і зрабіць другі стрэл. Пасля першага стрэлу, атрымаўшы такія цялесныя пашкоджанні (былі раздробленыя абедзве сківіцы, зубы, фрагмент носу), Краўчанка фізічна не змог бы зрабіць другі стрэл сабе ў галаву.

Таму не дзіўна, што шмат хто, у тым ліку і родныя журналіста, не вераць, што ў гэтай гісторыі пастаўленая апошняя кропка.

Зразумела, што ўжо 20 гадоў гучаць альтэрнатыўныя версіі. У тым ліку таму, што палітычныя наступствы скандалу справы Гангадзэ былі глабальныя. У лістападзе 2000-га ў інфармацыйную прастору былі выкінутыя запісы размоваў Кучмы, якія, быццам, патаемна рабіў яго ахоўнік Мікалай Мельнічэнка. На іх Кучма сапраўды кажа пра Гангадзэ, прычым у эмацыйна негатыўным тоне, хаця непасрэднага загаду забіць журналіста на стужках не гучыць.

Тым не менш, частка ўкраінскага грамадства палічыла тады гаранта адказным за забойства і пайшла на плошчу. Акцыя «Украіна без Кучмы» (так называўся той пратэст) была ў выніку задушаная, аднак паўстаў адзіны антыкучмаўскі і празаходні лагер. Менавіта яго лідары павялі людзей на «Аранжавую рэвалюцыю» 2004-га і на Майдан 2013–2014-га. Гэта дае падставы для тэорыі, што забойства Гангадзэ арганізавалі заходнія спецслужбы, якія баяліся павароту Кучмы ў бок Масквы.

**Цяжка пераацаніць уплыў той трагедыі на сучасную гісторыю Украіны. Забойства і «стужкі Мельнічэнкі» нанеслі сур'ёзны ўдар па прэстыжы Леаніда Кучмы**

Між тым, арганізатары акцыі «Украіна без Кучмы» кажуць, што яе шараговыя актывісты ўвогуле не ведалі, хто такі Гангадзэ, і менш за ўсё цікавіліся геапалітыкай. «Яны (пратэстоўцы) агучвалі патрабаванні змены сацыяльных, эканамічных і палітычных адносін унутры краіны», — кажа каардынатар акцыі Уладзімір Чамярыс. Калі верыць Чамярысу, Захад не інспіраваў «Украіну без Кучмы» і, адпаведна, не «замаўляў» журналіста. На карысць недатычнасці Захаду, маўляў, сведчаць таксама афіцыйныя заявы пасольства ЗША, якое дасюль заклікае Кіеў давесці следства да канца і назваць усіх фігурантаў забойства.

Атрымліваецца, што Кучма сапраўды мог даць загад на забойства. Пасля хадзілі чуткі, што падчас прэзідэнцтва Юшчанкі Леанід Кучма даў велізарны хабар, каб яго імя выкраслілі з ліку падазраваных.

Нарэшце, модна шукаць сапраўднага замоўцу забойства Гангадзэ сярод атачэння Кучмы. Нехта з падручных мог штучна сфарміраваць ва ўкраінскага гаранта ўражанне таго, што сайт Гангадзэ нясе рэальную пагрозу рэжыму Кучмы. Аматарам гэтай версіі любяць нагадваць, што на пачатку нулявых інтэрнэт увогуле не ўплываў на палітычныя настроі ўкраінцаў. А пра існаванне інтэрнэт-выдання «Украінская праўда» было вядома толькі нешматлікім юзерам.

Але 20-я гадавіна справы Гангадзэ натхніла прыхільнікаў апошняй версіі. У прэсе нечакана ўсплыло імя Уладзіміра Літвіна, тагачаснага супрацоўніка адміністрацыі Кучмы. Па адной з версій, Літвін мог спадобіць Леаніда Кучму загадаць забіць Гангадзэ, бо меў рамантычныя пачуцці да ўладальніцы «Украінскай праўды». Сам Літвін, натуральна, кажа, што гэта хлусня.

Як бачым, разгадкі. У любым выпадку, цяжка пераацаніць уплыў той трагедыі на сучасную гісторыю Украіны. Забойства і «стужкі Мельнічэнкі» нанеслі сур'ёзны ўдар па прэстыжы Леаніда Кучмы. Гісторыя Украіны пайшла абсалютна інакш. «Калі б не справа Гангадзэ, у нас была б іншая краіна», — прызнаецца той жа Літвін. У тым ліку даючы зразумець, што грамадскі статус журналістаў у наш час дастаткова высокі і ставіцца да гэтай гільдыі любой уладзе лепш карэктна.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Руслан Стэфанчук



Віцэ-спікер Вярхоўнай Рады Украіны, адзін з лідараў прэзідэнцкай партыі «Слуга народа» ўнёс законапраект аб адмове Украіны ад пераводу гадзіннікаў на «зімовы» і «летні» час. У прынцыпе, гэта не першая ініцыятыва такога роду. Многія ўкраінцы тлумачаць свае хваробы рытмам жыцця, які даводзіцца карэктаваць пасля дзяжурнага пераводу стрэлак. Інтарэс грамадства да ініцыятывы Стэфанчука тлумачыцца яе абгрунтаваннем.

«Замацаванне на ўсёй тэрыторыі Украіны адзінага кіеўскага часу дазволіць умацаваць нашы абаронныя пазіцыі і будзе спрыяць дэакупацыі і рэінтэграцыі часова акупаваных тэрыторый», — лічыць Стэфанчук. Прапанова дэпутата выклікала ў многіх пытанне: якім чынам перавод стрэлак дапаможа вярнуць Данбас у склад Украіны? Таму што праціўнік будзе на гадзіну раней класціся спаць? А можа таму, што маскоўскія навіны, якія глядзіць частка ўкраінскай аўдыторыі, будуць выходзіць у нязвыклы час?

Хутчэй за ўсё, адказ на пытанне ляжыць у сферы палітычнага піяру, які павінен падняць рэйтынг СН сярод правага электарату. Аднак тут жа Стэфанчук публічна дапусціў вынясенне на рэферэндум пытання пра статус рускай мовы і асаблівы статус Данбаса. Больш за тое, такі рэферэндум сапраўды збіраюцца правесці ў дзень мясцовых выбараў 25 кастрычніка. Супярэчлівыя ініцыятывы віцэ-спікера відавочна паказваюць, што партыя Зяленскага да гэтага часу знаходзіцца ў пошуку сваёй ідэнтычнасці.

### Кім Чэн Ын



Нягледзячы на пандэмію, у мінулыя выходныя лідар Паўночнай Карэі шырока адзначыў 75-годдзе кіруючай у краіне Партыі працы. У сталіцы ў ноч з суботы на нядзелю прайшоў ваенны парад у прысутнасці велізарнага натоўпу гледачоў. Пры гэта сам кіраўнік нават не хаваў, што дзесьці побач гуляе вірус. У сваім выступе пажадаў усім людзям у свеце, якія змагаюцца з вірусам, моцнага здароўя.

Нягледзячы на ўспамін пра вірус, ніхто на плошчы не насіў павязак. У тым ліку і таму, што яны заміналі ім выказаць радасныя эмоцыі. Прамова правадыра перыядычна перапынялася не толькі апладысментамі, але і плачам ад шчасця. Таксама асобным блокам Кім павіншаваў са святам жыхароў Паўднёвай Карэі, што адразу насцярожыла тых, хто глядзеў прамую трансляцыю ў Сеуле.

І змрочныя прадчуванні іх не падманулі. Цвіком ваеннага парада стала новая міжкантынентальная балістычная ракета. На думку экспертаў, ракета, якую дакладна накіруюць на Поўдзень, здольная паражаць цэлі на дыстанцыі прыкладна ў 12–13 кіламетраў. Зрэшты, магло быць значна горш. У канцы мінулага года Пхеньян абяцаў прадставіць у 2020-м навінку сваёй атамнай праграмы.

Застаецца дадаць, што парад, па словах Кіма, правялі ўначы не проста так, а як сімвал таго, што прамяні партыі здольныя рассейваць цемру.

### Эмамалі Рахмон



Кіраўнік Таджыкістана 12 кастрычніка ў пяты раз пераабіраўся на пасаду прэзідэнта, і тым самым не даў Лукашэнку абысці яго ў нефармальным першынстве па часе знаходжання на пасадзе прэзідэнта на постсавецкай прасторы.

Рахмон, нагадаем, узначальвае краіну з 1992 года. Тое, што на выбарах пяты раз запар пераможа Эмамалі Рахмон, на першы погляд, не было нечаканасцю. Лідар сацыял-дэмакратычнай партыі Таджыкістана — адзінай легальнай апазіцыйнай сілы ў краіне — не вылучаў сваю кандыдатуру, заклікаўшы чальцоў партыі «ігнараваць прэзідэнцкія выбары». Магчыма, менавіта за гэта яго збілі невядомыя ў дзень выбараў. Агітацыя за астатніх кандыдатаў, акрамя Эмамалі Рахмона, амаль не вялася.

Не здзівіў таксама і выніковы пратакол ЦВК, згодна з якім Рахмон атрымаў амаль 91% галасоў выбаршчыкаў.

Нечаканасцю кампаніі стала толькі тое, што ў ёй не прыняў удзел 32-гадовы сын прэзідэнта Рустам Эмамалі — мэр Душанбэ і старшыня верхняй палаты парламента. Чуткі пра тое, што Рахмон перадасць яму сваю пасаду, гулялі па краіне аж з 2016 года, калі быў праведзены канстытуцыйны рэферэндум, і ўзроставы цэнз для кандыдатаў у прэзідэнты быў зніжаны з 35 да 30 гадоў. Мабыць, усё ж Рахмон вылучыць сына на наступных выбарах.

# «Далоў самадзяржаўе!»:

Юрый ГЛУШАКОЎ

**У кастрычніку 1905 года, 115 гадоў таму, рускі цар Мікалай II пад націскам рэвалюцыі вымушаны быў абвясціць «Маніфест» аб грамадзянскіх свабодах і выбарах у Дзяржаўную думу.**



Мітынг у Лодзі, 1905 год

### «Малако — кожны вечар...»

Лета 1905 года выдалася гарачым. Перш за ўсё ў палітычным сэнсе. Не паспелі сціхнуць рэвалюцыйныя хвалі, выкліканыя чэрвеньскім паўстаннем на браняносцы «Князь Пацёмкін-Таўрычны», як успыхнуў страйк у Лодзі. Неўзабаве ён перарос ва ўзброенае паўстанне і барыкадныя баі рабочых з паліцыяй. Неспакойна было і ў Беларусі, якую царскія ўлады грэбліва называлі "Паўночна-Заходнім краем».

Ужо ў канцы траўня 1905 года ў Гомелі прайшла аднадзённая забастоўка супраць пагрому ў Жытоміры. У Гомелі казакі пры разгоне людзей на «працоўнай біржы» на вуліцы Кавальскай (цяпер — Інтэрнацыянальная), расстралялі 17-гадовага рабочага. У той жа дзень невядомыя стралялі ў Гомельскага паліцмайстара, але няўдала. Раненні атрымаў прыстаў Дашкевіч. 20 чэрвеня таксама адбылася шматлюдная дэманстрацыя, салдаты і афіцэры 160-га пяхотнага абхазскага палка выказвалі салідарнасць з маніфестантамі. Шматлікія дэманстрацыі ішлі адна за адной. Напрыклад, 12 ліпеня 4 тысячы рабочых пратэставалі супраць цялесных пакаранняў сялян вёскі Дзятлавічы.

У адказ улады ўвялі ў Гомель казакоў і «дзікія» падраздзяленні чаркесаў. Пачаліся масавыя аблавы, арышты і збіццё людзей, у тым ліку — і выпадковых мінакоў. Гумовых дубінак тады яшчэ не ведалі — з пратэстоўцамі распраўляліся з дапамогай бізуноў-нагаек, шашак, прыкладаў і проста кулакоў і ботаў. Некалькі чалавек атрымалі раненні з агнястрэльнай зброі.

Масавыя выступленні і аграрныя хваляванні ахапілі тады ўсю Беларусь. Забастоўкі, дэманстрацыі і розныя акцыі праходзілі ў Мінску, Гродне, Магілёве, Брэсце, Віцебску, Мазыры, Бабруйску і ў многіх іншых гарадах і мястэчках. У чэрвені 1905 года ў Беластоку Гродзенскай губерні пачаўся ўсеагульны страйк. Яго арганізатарам выступіла мясцовая група анархістаў-камуністаў. Але 29 чэрвеня адбылася трагедыя. Паводле адной інфармацыі — правакатар страляў у патруль. Паводле іншай — анархіст Арон Елін (Гелінкер) кінуў бомбу ў памочніка паліцмайстара Глобскага і групу паліцэйскіх. Як бы там ні было, але ў адказ паліцыя і войскі пачалі крывавую зачыстку ў цэнтры Беластока, затрымліваючы і неміласэрна збіваючы ўсіх выпадковых мінакоў. Усяго было забіта 13 гараджан, прычым толькі гарадавы Павел застрэліў шэсць чалавек.



А. Булыгін

Акрамя агульнарасійскіх сацыялістычных партый, габрэйскіх і польскіх сацыялістаў, у Беларусі разгортвала сваю дзейнасць і Беларуская сацыялістычная грамада. БСГ выступала як за сацыяльнае, так і нацыянальнае вызваленне беларускіх працоўных. Шмат у чым арыентаваная на рэвалюцыйнае народніцтва, БСГ стварыла Беларускі сялянскі саюз. Пры ім фарміраваліся дружыны сялянскай самаабароны. Летам 1905 года Беларуская сацыялістычная грамада рыхтавала ўсеагульны сялянскі страйк, улётка «Да ўсіх работнікаў і работніц дваровых...» была надрукаваная ў 10 тысяч асобнікаў. Парабкаў, якія працавалі шмат у чым за харчы ад гаспадароў, заклікалі вылучаць такія патрабаванні — мяса 2–3 разы на тыдзень, малако — кожны вечар. Такія былі рэаліі жыцця простага народа ў Расійскай імперыі, «якую мы страцілі».

### Цэнзура праз нерухомасць

Уздымны вал рэвалюцыі прымусіў нават замшэлае самадзяржаўе пайсці на саступкі грамадству. 19 жніўня 1905 года было заяўлена пра скліканне «законосовещательной» Дзяржаўнай думы. Па імені міністра ўнутраных спраў Аляксандра Булыгіна, які падрыхтаваў гэты праект, яна атрымала найменне «Булыгінская». На той момант цэнтральныя органы прадстаўнічай улады ў Расійскай імперыі наогул адсутнічалі: манархічнае праўленне абапіралася выключна на жорсткую «вертыкаль» выканаўчай улады.

Цар Мікалай II валодаў каласальнымі ўладнымі паўнамоцтвамі. Ён аднаасобна прызначаў урад і губернатараў, толькі перад ім давалі справаздачу ўсе вышэйшыя чыноўнікі. Найважнейшым з міністэрстваў было МУС, у падпарадкаванні якога знаходзілася не толькі агульная і палітычная паліцыя і жандармерыя, але і органы дзяржаўнага кіравання на месцах. Сімвалічную прадстаўнічую ролю быў закліканы адыгрываць Дзяржаўны савет. Аднак яго чальцы нікім не абіраліся, а прызначаліся асабіста царом — як правіла, пажыццёва, з ліку зямельнай арыстакратыі і іншых «вышэйшых чыноў». Пры гэтым паўнамоцтвы Дзяржсавета абмяжоўваліся толькі дарадчымі функцыямі пры асобе «гасудара імператара».

Вядома, у рэальнасці Мікалай Раманаў правіў не аднаасобна. Цар большую частку абавязкаў па кіраванні краінай перакладаў на сваіх падначаленых, а яго ўласныя рашэнні моцна залежалі ад меркавання царыцы і бліжэйшага акружэння. Але тым больш, пры фармальна неабмежаваным самадзяржаўі, уся краіна станавілася цацкай у руках саноўнікаў і проста авантурыстаў, якія здолелі прабіцца да трона. Найбольш абуральным прыкладам фаварытызму і афёраў стала пасля незабыўная «распуціншчына».

Выбарнымі ў Расійскай імперыі з'яўляліся толькі гарадскія думы і земскія сходы. Але нават выбары мясцовага самакіравання не былі ні дэмакратычнымі, ні свабоднымі. Абранне жорстка абмяжоўвалася маёмасна-саслоўным цэнзам. Дэпутаты выбіраліся па «курыях» — ад буйных землеўладальнікаў, ад сельскіх таварыстваў і іншае, неабходнай умовай абрання была наяўнасць пэўнай нерухомай маёмасці. Пры гэтым правы абраных былі выключна намінальнымі. У гарадскіх думах «нехрысціяне» не маглі складаць больш за пятую частку дэпутатаў, у той час як яўрэі налічвалі больш за палову насельніцтва гарадоў і мястэчак. У беларускіх губернях, якія знаходзіліся пад падазрэннем пасля паўстання 1863 года, на ўстанову земстваў да часу, які мы апісваем, цар так і не рызыкнуў пайсці.

Не менш абмежавальная сістэма была закладзеная і ў праекце «Булыгінскай думы». Рабочыя і сяляне, якія не мелі дастатковага маёмаснага цэнзу, цалкам адхіляліся ад выбараў. Правы голасу былі пазбаўленыя таксама студэнты і салдаты. Па-ранейшаму не дапускаліся да выбараў жанчыны. Са 143 мільёнаў жыхароў Расійскай імперыі выбарчыя правы атрымлівалі толькі 4 мільёны найбольш заможных падданых. Тыя ж сяляне, хто праходзіў маёмасны парог, павінны былі прасеяць сваіх дэпутатаў праз 4-ступенную сістэму выбараў! Нават дваране і буржуа былі пазбаўленыя прамых выбараў — для іх прадугледжвалася 2-ступенная сістэма. І ў канчатковым выніку гэтай піраміды атрымліваўся зноў не паўнавартасны парламент, а ўсяго толькі «заканадарадчы» орган. Адзіны плюс, што ў законе ўпершыню гаварылася пра «таемнае галасаванне». Але, па-сутнасці, «Булыгінская дума» ні ў чым не абмяжоўвала ўладу цара і бюракратыі, якая стаяла за яго тронам.

Але планы палавіністай «канстытуцыйнай рэформы» царызму скарэктаваў вызваленчы рух, які працягваў разгортвацца.

### «За нашу і вашу свабоду!»

У грамадстве праект Булыгіна практычна нікога не задаволіў, і неўзабаве паднялася новая рэвалюцыйная хваля. Самы моцны ўдар па самадзяржаўю нанеслі рабочыя, якія арганізавалі ўсеагульны страйк. Беларускія работнікі ішлі ў першых шэрагах гэтай барацьбы.

25 верасня забаставалі 1200 рабочых брэсцкіх майстэрняў у Маскве. 7 кастрычніка Усерасійскі саюз чыгуначнікаў (ВСЖ), які знаходзіўся пад уплывам партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, заклікаў да ўсерасійскага страйку. Па тэлеграфных правадах і сталёвых магістралях пратэстны імпульс хутка перадаўся ў розныя канцы Расійскай імперыі. 11 кастрычніка ў Гомелі адбыўся мітынг чыгуначнікаў, у якім прынялі ўдзел 10 тысяч чалавек. 12 кастрычніка спыніўся рух на Палескай і Лібава-Роменскай чыгунках. 13 кастрычніка кааліцыйны камітэт у Гомелі заклікаў да ўсеагульнага страйку. Электрастанцыя перастала працаваць, вакзал пагрузіўся ў цемру. Лібаўскі цягнік выйшаў у гэты дзень пад канвоем войскаў.

Да сярэдзіны кастрычніка страйкавалі чыгуначнікі Мінска, Гомеля, Брэста і іншых беларускіх станцый. Да забастоўкі далучыліся прафсаюзы медыкаў, канторскіх служачых і іншых прафесій. А 14 кастрычніка пра падтрымку ўсеагульнага страйку заявіў «Саюз саюзаў» — аб'яднанне шэрагу прафсаюзаў краіны, якія існавалі, як правіла, нелегальна або паўлегальна. Права на свабоднае аб'яднанне ў свае саюзы, у тым ліку прафесійныя, жыхары Расійскай імперыі не мелі.

Улады адчайна спрабавалі падавіць народны рух з дапамогай рэпрэсій. 6 кастрычніка ў Мінску пасля мітынгу ў сінагозе паліцыя наладзіла масавае збіццё. Больш за 100 чалавек былі параненыя, 8 з іх — цяжка. 6 кастрычніка невядомыя зрабілі некалькі тэрарыстычных актаў супраць чыноўнай паліцыі.

Але Усерасійская палітычная стачка набыла велізарную папулярнасць дзякуючы таму, што спалучала эканамічныя і палітычныя патрабаванні. Свядомыя рабочыя, што падняліся на барацьбу, патрабавалі скліканне Устаноўчага сходу на аснове ўсеагульнага, роўнага, таемнага і вольнага галасавання. Разам з гэтым страйкамы патрабавалі ўвядзення 8-гадзіннага працоўнага дня, прызнання адміністрацыяй рабочых дэпутатаў, без згоды якіх нельга было звальняць людзей, павышэння зарплаты, выплаты дапамогі падчас хваробы, адмены штрафаў, забарону жанчынам выконваць мужчынскую працу, вызваленне цяжарных жанчын ад працы на 4 тыдні да родаў і 6 тыдняў пасля родаў з выплатай зарплаты, заснаванне ясляў, аплатных адпачынкаў і бібліятэк пры прадпрыемствах. Таксама страйкоўцы вылучалі патрабаванне перадачы ўсёй зямлі народу ў грамадскае ўраўняльнае карыстанне.

### Анархія супраць дэмакратыі

Усеагульны страйк у Беларусі падтрымалі як сацыялістычныя партыі — сацыял-дэмакраты, сацыялісты-рэвалюцыянеры, Беларуская сацыялістычная грамада, Бунд, «Паалей-Цыён», Польская партыя сацыялістычная (ППС) і іншыя, так і лібералы — канстытуцыйныя дэмакраты з «Партыі народнай свабоды». Але не ўсё было проста. Нягледзячы на ўсеагульны ўздым у барацьбе за дэмакратыю, частка радыкалаў была гэтым энтузіязмам незадаволеная. Гаворка ідзе пра анархістаў-камуністаў, першыя групы якіх з'явіліся ў Расійскай імперыі ў Гродзенскай губерні. Цытадэллю анархісцкага руху быў Беласток, дзе прыхільнікі безуладдзя мелі каласальны ўплыў на рабочых. Але пасля таго, як мясцовыя пралетарыі далучыліся да Усерасійскай палітычнай стачкі, лідары «чорнасцяжнага» руху ледзь не хапаліся за галаву са словамі: «Усё прапала!»

Справа ў тым, што тагачасныя анархісты не прызнавалі ніякіх кампрамісаў і разглядалі што ліберальную рэспубліку, што самадзяржаўную манархію практычна як аднолькавае зло.

# як у Беларусі за дэмакратыю змагаліся

Для гэтых крайніх радыкалаў была непрымальная любая дзяржава і любая форма капіталізму. І тое, што масы зноў пайшлі за палітычнымі «ўладнікімі» партыямі, якія паманілі іх дэмакратычнымі лозунгамі, гэтае «экстрэмісцкае крыло» анархізму ўспрымала ледзь не як асабістую паразу.

Некаторым суцяшэннем для анархістаў-камуністаў стала тое, што ім удалося ўключыцца у патрабаванні беластоцкіх стачачнікаў і мноства эканамічных пунктаў. Але неўзабаве «чорнасцяжнікі» задумалі даць «буржуазнаму мінімалізму і дэмакратызму» больш грунтоўны адказ. Пры ўсім сваім гарачым тэмпераменце анархісты-камуністы былі ў некаторых пытаннях рэалістамі і ацэньвалі рэвалюцыю, што праходзіла на іх вачах, як буржуазна-дэмакратычную. Але, каб не «патануць бясследна ў велізарнай дэмакратычнай хвалі», анархісты гэтага лагера мелі намер абвастрыць барацьбу не толькі з дзяржавай, але і з буржуазіяй.

Аднак з нагоды таго, што супрацьпаставіць дэмакратычнай эйфарыі, меркаванні анархістаў падзяліліся. Самая крайняя фракцыя выступіла за «антыбуржуазны тэрор». З ёй спрачаліся так званыя «камунары». Яны не былі згодныя з тактыкай індывідуальнага тэрору. «Цэлай гістарычнай паласе нельга супрацьпаставіць індывідуальны пратэст асобных замахаў», — пісаў у органе анархістаў-«чорнасцяжнікаў» «бунтар» нехта «Леанід Віленскі».

Тактыка ж «камунараў» меркавалася такая: «Пройдзе рэвалюцыя, — казалі яны («камунары» — Ю. Г), — і вобразамі герояў-змагароў, крывёю загінуўшых ахвяр, крыжамі брацкіх магіл на многія, доўгія гады асвяціць у вачах мас дэмакратычны сцяг. Чымсці дарагім, выпакутаваным стане ён для іх. Варожа і холадна сустрэнуць тады масы ўсякую крытыку дэмакратыі. Нечым блюзнерскім падасца яна для іх. І трэба цяпер, на вялікім фоне дэмакратыі, стварыць хаця б адну варожую ўсёй карціне кропку. Хай гэта будзе толькі кропка. Хай успыхне і згасне яна. Але след пакіне. Шматмільённыя масы заўважаць і захаваюць яе ў сваіх розумах як нешта, што ідзе ўразрэз з ідэямі і лозунгамі дэмакратыі. Такім пунктам можа быць толькі масавы анархічны акт — спроба паўстання ў імя анархічнай камуны».

Пры гэтым такога роду спроба загадзя выракалася на паразу і ахвяры, але павінна была быць зробленая ў агітацыйных мэтах. Аднак «чорнасцяжнікам» не ўдалося ўтварыць хаця б часовую «ваенна-рэвалюцыйную камуну» ў Беластоку і іншых гарадах і пачаць там уво дзіць анарха-камунізм. Групы анархістаў, якія рыхтавалі такога роду выступы, былі арыштаваныя паліцыяй, верагодна — не без дапамогі правакатараў.

Прыхільнікі традыцыйнага анархізму ў духу ідэй князя Крапоткіна лічылі падобныя спробы «ўспышкапускальніцтвам». Сам Крапоткін заклікаў не злоўжываць гвалтам нават у мэтах рэвалюцыі і рабіў упор на прапаганду ідэй будучага вольнага бездзяржаўнага ладу анархічных камун. Пасля ён меркаваў, што анархісцкія ініцыятывы змогуць развівацца і пры рэспубліканскай дзяржаве ў рэчышчы так званага «дэмакратычнага федэралізму». Беларускія прыхільнікі Крапоткіна і блізкага да яго органа «Хлеб і Воля» восенню 1905 года правялі свой з'езд у Вільні. Яго арганізатарам быў ураджэнец Віцебскай губерні сталяр Ілля Гейцман («Хаім Лонданскі»), які да гэтага два разы ўцякаў з ваеннай службы.




Карыкатура 1905 года

## «Цар спалохаўся, выдаў маніфест — мёртвым свабоду, жывых — пад арышт»

Але што б ні пісалі анархісты, масы сапраўды прагнулі палітычнай волі і той сацыяльнай справядлівасці, якая магла быць рэалізаваная хаця б у іх рамках. Тым часам Беларусь, як і ўся Расійская імперыя, была ахопленая ўсеагульным страйкам, паўсюдна ішлі дэманстрацыі і сутыкненні з царскай паліцыяй. Усяго ва Усерасійскай палітычнай стачцы ўзялі ўдзел каля 2 мільёнаў чалавек. Чыгуначнае злучэнне было амаль паўсюдна спыненае. Абвясцілі пра спыненне працы служачыя тэлеграфна-паштовых кантор і тэлефонных станцый. Страйкавалі не толькі рабочыя, але і настаўнікі, інжынеры, лекары, адвакаты, суды, служачыя банкаў, міністэрстваў і іншых дзяржаўных устаноў. Да стачкі далучыліся нават артысты імператарскіх тэатраў. У Пецярбургу не працавала электрычнае і газавае асвятленне, сталіца пагрузілася ў змрок.

І самадзяржаўе завагалася. 17 кастрычніка 1905 года быў абвешчаны «Маніфест» Мікалая II. Ужо ў яго першым радку самадзяржац прызнаваў, што ідзе насустрач народу фактычна пад ціскам «смут і хваляванняў у сталіцах і многіх мясцовасцях». Ад гэтага «вялікім і цяжкім смуткам перапаўняецца сэрца наша». Патрабуючы, як і раней, жорсткага падаўлення беспарадкаў, цар вымушаны быў у мэтах прымірэння: «1. Дараваць насельніцтву непарушныя асновы грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасці асобы, свабоды сумлення, слова, сходаў і саюзаў. 2. Не спыняючы прызначаных выбараў у Дзяржаўную думу (гаворка ідзе пра «Булыгінскую думу». — Ю. Г.), прыцягнуць цяпер да ўдзелу ў Думе, па магчымасці, адпаведна сцісласці тэрміну, што застаўся да склікання Думы, тыя масы насельніцтва, якія цяпер зусім пазбаўленыя выбарчых правоў, надаўшы далейшае развіццё пачатку агульнага выбарчага права зноў установленаму заканадаўчаму парадку». З гэтага часу без адабрэння выбарных ад народа ніякі закон не меў сілы, Дзяржаўнай думе таксама давалася нейкае цьмянае права «нагляду за заканамернасцю дзеянняў пастаўленых ад нас уладаў».

Характэрна, што ў «Маніфесце» гаворка ішла аб прыцягненні да выбараў усяго насельніцтва, раней пазбаўленага выбарчых правоў. Праўда — «па магчымасці». Але напалоханы рэвалюцыяй цар абяцаў у будучыні і ўвядзенне ўсеагульнага выбарчага права. Калі падыходзіць да гэтай формулы літаральна, то такога права не было тады ў выбаршчыкаў ні ў адной еўрапейскай краіне.

Таксама «Маніфест» 17 кастрычніка адмяняў фактычную забарону на выданні на беларускай і ўкраінскай мовах. У наступным годзе стала выходзіць першая газета на беларускай мове — «Наша доля».

Але, як гаворыцца, «гладка было на паперы...» З аднаго боку, улады на месцах і сам міністр МУС нічога не ведалі пра «Маніфест», які рыхтаваўся таемна, і прачыталі пра яго толькі ў газетах. Відавочна, лібералы ва ўрадзе на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Вітэ, якія рыхтавалі гэтую рэформу, хавалі падрыхтоўку дакумента з-за асцярогі ўмяшання кансерватыўных колаў. Разгубленасцю ўладаў скарысталіся дэмакратычныя сілы, і шматлікія радасныя дэманстранты напоўнілі вуліцы гарадоў. Але рэакцыя, і не без санкцыі самога Мікалая II, адказала на «наданне свабод» лютым тэрорам. 18 кастрычніка ў Мінску на плошчы каля Віленскага вакзала сабраўся вялікі мітынг, арганізаваны чыгуначным страйкамам на чале са службоўцамі Лібава-Роменскай дарогі Паўлам Жабам і Пятром Гамзахурдзі. Па лініі Міністэрства шляхоў зносін яны аднымі з першых атрымалі поўны тэкст царскага «Маніфесту» і зачыталі яго прысутным. Пасля перамоваў з мінскім губернатарам Паўлам Курловым мітынг быў дазволены. А з Пішчалаўскага замка вызвалілі частку палітвязняў, якія тут жа далучыліся да прысутных.

Аднак улады вырашылі, што такі «разгул свабоды» дараваць нельга. І калі мірныя ўдзельнікі санкцыянаванага «масавага мерапрыемства» сталі разыходзіцца, войскі і паліцыя адкрылі па іх агонь. Вінтовачныя залпы з блізкай адлегласці літаральна касілі людзей. У ліку іншых была забітая эсэрка Ружа Шабад, якая стаяла з чырвоным сцягам. Паліцыя працягнула расправу над людзьмі, што спрабавалі схавацца, на прылеглых вуліцах. Усяго быў забіты 51 чалавек, яшчэ больш — паранена. Дадзеныя медычнай камісіі паказалі, што большасць забітых атрымалі кулі ў спіну або патыліцу.

У іншых выпадках паліцыя прыцягнула да нападу на дэмакратычныя і працоўныя арганізацыі баевікоў з нацыяналістычнага «Саюза рускага народа». «Чарнасоцэнцы» грамілі і забівалі габрэяў, а там, дзе такіх не знаходзілася, — інтэлігентаў і іншых «падазроных». Пагромы і масавыя забойствы адбыліся ў Рэчыцы, Оршы і іншых гарадах. У кастрычніку 1905 года ў Рэчыцу з Гомеля, для прадухілення пагрому, выехаў атрад мясцовай самаабароны на чале з бундаўцам Лейбам Рожэндам («Лейба Пакутнік»). Працоўны Рожэнд вызначаўся велізарнай фізічнай сілай і быў небяспечным для мясцовых чарнасоценцаў. Але на вакзале Лейба дапусціў памылку — купіў квіткі адразу на ўсіх дружыннікаў. І ў Рэчыцы гомельскую самаабарону ўжо чакала засада. Прызваныя з запасу ваеннаабавязаныя разам з «чорнай сотняй» з вінтовак расстралялі гомельскіх дружыннікаў на шляху са станцыі ў горад. Параненых дабівалі сякерамі і прыкладамі. Аднаму з самаабаронцаў адсеклі нагу, і яна так і ляжала на фота гэтай страшнай разні побач з трупамі.

Аднак у Гомелі «чорная сотня» зладзіць пагром з нагоды «свабод» не рызыкнула. Гомельскія чыгуначнікі сфарміравалі рабочую дружыну пры страйкаме ў колькасці 300 чалавек. І абвясцілі пра рашучы намер абараняць бяспеку грамадзян.

Процiборства паміж сіламі рэвалюцыі і рэакцыі працягвалася яшчэ доўга. Калі манархіі ўдалося часова пацясніць дэмакратычны і сацыяльны рух, цар хутка забыўся пра «ўсеагульнае выбарчае права». Выбары ў наступныя Дзяржаўныя думы праходзілі на аснове ўсё таго ж саслоўна-маёмаснага цэнзу, жанчыны і малазабяспечаныя пласты да іх па-ранейшаму не дапускаліся. Выбарчыя кампаніі часцяком суправаджаліся масавымі арыштамі выбаршчыкаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі і ўсіх незадаволеных. Капрызны самадзяржац неаднаразова разганяў непажаданых яму дэпутатаў. І ў канчатковым выніку нежаданне царызму ісці па шляху паслядоўных пераўтварэнняў прывяло яго да гібелі.

Але нават адразу пасля паразы першай рэвалюцыі, з дапамогай усіх войскаў, паліцыі і «чорнай сотні» далёка не ўсе яе дасягненні ўдалося ліквідаваць або звесці да папяровай фармальнасці.

І сёння ўсеагульная забастоўка ў кастрычніку 1905 года для нас — не проста гісторыя. Па вялікім рахунку, 8-гадзінны працоўны дзень, права на аб'яднанне ў прафсаюзы, аплачваемы адпачынак і бальнічны, дэкрэтны адпачынак, раўнапраўе для жанчын і многія іншыя сацыяльныя заваёвы — усё родам адтуль. Як, зрэшты, і парламенцкая дэмакратыя, і ўсеагульнае выбарчае права, і прызнанне беларускай мовы і нацыянальнай культуры. Нешта з гэтага спраўна працуе і даўно стала для нас звыклым і штодзённым, іншае — да гэтага часу з'яўляецца пустым гукам. Але ж гісторыя і жыццё грамадства — не нерухомая дадзенасць, а дынамічны і складаны працэс пастаяннай барацьбы розных сацыяльных сіл і іх ідэй. Адвечнае супрацьстаянне цэнтралізму і гвалту — і свабоды і справядлівасці.



Чаркесы разганяюць дэманстрацыю ў Кракаве

# Асаблівасці нацыянальнага паражэнства

Сяргей КАЙКО

**Беларускія футбалісты ў бягучым сезоне прайгралі ўсё, што можна.**

Яшчэ некалькі гадоў таму беларускія заўзятары думалі, што футбол у краіне мае нейкі вышэйшы сэнс і хоць павольна, але рухаецца насустрач святлу ў канцы тунэлю. Але сёлета ўсе гэтыя напрацоўкі паляцелі ў бездань.

## Два «Дынама» і «Шахцёр»

Шахцёры «Беларуськалія» пасля 9 жніўня спрабавалі страйкаваць, але хутка атрымалі па касцы і аднавілі вытворчасць. Яны здабываюць свае вельмі карысныя выкапні ў тым ліку для таго, каб футбалісты клуба «Шахцёр» атрымлівалі астранамічныя заробкі і нарэшце навучыліся перамагаць.

Футбалісты вучацца — ужо шмат гадоў. Аднак перамагаць па-ранейшаму не здольныя.

Гэта ўжо не аднойчы расказаны апокрыф, але ён застаецца фактам: штогод у салігорскую каманду ўбухваюцца вялізарныя дзяржаўныя грошы, штогод туды пачкамі завозяць нятанных легіянераў і амаль штогод мяняюць трэнераў. І штогод футбольны Салігорск працягвае несці страты — фінансавыя, спартыўныя, іміджавыя.

Напрыканцы лета «Шахцёр» распачаў чарговую эпічную адысею — стартаваў у Лізе Еўропы. У якасці суперніка атрымаў сціплы малдаўскі «Сфынтул Георге». Добры варыянт, здавалася, тут ужо дакладна нельга схібіць. Аднак, як выявілася, няма такіх праблем, якія не можа сабе стварыць асобна ўзяты беларускі футбольны клуб.

«Шахцёр» сціснуў волю ў кулак — і ўсё ж такі прайграў малдаванам, ды яшчэ на сваім полі. І адразу праляцеў міма мары пра еўракубкавую восень.

У мінскага «Дынама» здарылася тая ж гісторыя, і мы пра гэта ўжо згадвалі. Узяты пад трапяткую апеку дзяржавы, найстарэйшы беларускі футбольны клуб, гонар заўзятараў 1980-х гадоў, усё ніяк не можа выкараскацца з багны. Ужо і грошы яму даюць, і гульцоў замежных купляюць, і трэнерам паставілі аўтарытэтнага Леаніда Кучука. Усё дарэмна. У той жа Лізе Еўропы мінчане млява саступілі польскаму «Пясту» і маркотна скончылі свае гастролі на міжнароднай арэне. У чэмпіянаце краіны справы таксама ідуць гаротна — сёмае месца за пяць тураў на фінішу.

«Дынама» брэсцкае яшчэ крыху пакорпалася ў еўракубках. Прайшло два раунды, што для сённяшняга часу амаль подзвіг. Але потым паляцела пад адхон і яно — на хвілінку, чэмпіён краіны. Ні ізраільскаму «Макабі» ў Лізе чэмпіёнаў, ні балгарскаму «Лудагорцу» ў Лізе Еўропы берасцейцы рады не далі. І яны таксама маюць усе шанцы, каб з трэскам праваліць сезон.

## Барысаў ужо «не торт»

Для БАТЭ выдзелім, як у тым кіно, «асобны кабінет», бо працяглы час вонкавы дабрабыт трымаўся ў беларускім футболе менавіта за кошт поспехаў «жоўта-сініх». Яны хутчэй наперак — цягнулі воз уласнымі высілкамі. Анатоль Капскі ў самым звычайным раённым цэнтры ўмудрыўся стварыць сапраўдны футбольны аазіс, які квітнеў дзесяць гадоў.

Але Капскі заўчасна памёр. А цяпер і яго дзецішча паступова праяўляе прыкметы заняпаду.

На рахунку барысаўчан таксама аглушальны правал на міжнародным узроўні. Упершыню за сем апошніх сезонаў колішні флагман беларускага футбола вылецеў з еўракубкаў ужо на самым пачатку. Дастаткова было паехаць у Сафію — у госці да мясцовага ЦСКА. Балгарам БАТЭ прайграў драматычна, але каго гэта хвалюе? Хто памятае нешта большае, акрамя выніковых лічбаў 0:2 на табло?

У беларускім чэмпіянаце Барысаў яшчэ трымаецца на верхнім радку ў табліцы, але ўсё вельмі хістка. Той вялізнай розніцы ў класе перад канкурэнтамі даўно няма. А гродзенскі «Нёман» дыхае ў спіну горача і пагрозліва.

Зрэшты, галоўнае ў іншым — у канцэптуальнай будучыні гэтага футбольнага праекту. Мы ўжо паведамлялі, што ёсць вялікія пытанні да фарміравання ў футбольным Барысаве гадавога бюджэту на наступныя сезоны. Бо шчодрага спонсара клуб не мае — як не мае і магутнай дзяржпадтрымкі. БАТЭ існуе за грошы, якія сам зарабляе ў еўракубках. Ужо другі год запар асаблівых грошай няма — няма і любові?

Кадравая палітыка апошніх тыдняў таксама намякае, што барысаўчане пачынаюць праглічваць наступныя крокі і памалу зацягваць паясы. Сыходзяць з офісу менеджары — спачатку кіраўнік дэпартамента развіцця Наталля Марчанка, затым намеснік генеральнага дырэктара Аляксей Баравіцкі. Уласна, і самога «гендыра» БАТЭ не мае з тых часоў як пасаду па палітычных матывах пакінуў Міхаіл Залеўскі.

Можна чакаць, што і некаторыя моцныя гульцы ў міжсезонні таксама развітаюцца з Барысавам. Нездарма клуб ужо цяпер пакрысе падпісвае моладзь з іншых каманд. Моладзь — яна таннейшая і шмат есці не просіць.



Фота www.gff.ge

Тбілісі. Грузія — Беларусь. У найважнейшым матчы нашы футбалісты выглядалі зусім бездапаможна

## Зборная як вішанька

Клубы на еўраарэне сёлета выступілі найгорш за апошнія 14 гадоў, і ад гэтага факта нельга адмахнуцца. Але быў яшчэ шанец яго, як гавораць тэлевізійшчыкі, заблюрыць. Гэты шанец мела зборная. І паспяхова запарола.

На мінулым тыдні ў раскладзе галоўнай каманды краіны, як у барона Мюнхгаўзэна, значыўся подзвіг. Зборная Беларусі падышла да кульмінацыі свайго існавання апошніх гадоў. Ёй прыспеў час гуляць у плей-оф за паездку на чэмпіянат Еўропы.

Раней, яшчэ пад кіраўніцтвам трэнера Ігара Крывушэнкі, беларусы пераадолелі групавы бар'ер, і ў выніку пуцёўка на EURO лягла на кон у барацьбе чатырох каманд — Беларусі, Грузіі, Паўночнай Македоніі Косава. Хто з квартэту мацнейшы — таго, як кажуць, і тапкі.

І вось нашы футбалісты адправіліся ў Тбілісі. Каб перамагчы і выйсці ў фінал. Пра гэты матч цэлы год напралёт трызнілі заўзятары і прэса, гэтай гульні чакалі як Другога Прышэсця. Дачакаліся — праслізгіліся.

У грузінскай сталіцы беларусы выглядалі проста бездапаможна. Вочы не гараць, ногі не бягуць, па мячы не трапляюць. За 90 хвілін наша каманда толькі раз здолела стрэліць у створ чужых варот, дый той удар вастрыні не нёс. Грузіны — тыя «пампіралі» на полі, усяляк дэманстравалі, што ў гэты гістарычны вечар яны гатовы аддаць дзеля перамогі ўсё. І гол свой яны забілі, хай і з пенальці.

## Драгун нон-грата

Зборная Беларусі адвярнула ад сябе заўзятараў. Прычым у адпаведнасці з класікай: спачатку паступова, а потым — адразу.

Паступова — гэта гісторыя пра тое, як футбалісты-зборнікі старанна адмоўчваліся, адмяжоўваліся ад палітычных падзей у краіне. І ўвогуле не знайшлі ў сабе моцы хоць неяк абазначыць сваю грамадзянскую пазіцыю. Лічаныя белыя стужкі, з якімі выходзілі на матчы лічаныя гульцы, — ну так сабе рэакцыя на зверствы сілавікоў і іншае беззаконне.

Адразу — гэта персанальная справа паўабаронцы Станіслава Драгуна, якому не знайшлося месца сярод гульцоў тбіліскага матчу. Афіцыйнае тлумачэнне — каронавірус, які хлопец падхапіў аднначасова са сваім аднаклубнікам з БАТЭ Ігарам Стасевічам. Але ад 30 верасня Драгун ужо трэніраваўся з барысаўскай камандай на ўсю моц, і на той момант да гульні з грузінамі заставалася больш за тыдзень.

Драгун, у адрозненне ад іншых, не маўчыць. І то падтрымае баскетбалістку Алену Леўчанка, то выкажацца ўвогуле пра гвалт у краіне. То падыме голас у відэароліку ўсё на тыя ж самыя палітычныя тэмы. То так, па дробязі, пакоціць бочку на кіраўніцтва федэрацыі, якое ніяк не можа пазбавіць чэмпіянат краіны гучных судзейскіх скандалаў.

І так цяпер бачыцца, што Станіслава Драгуна — аднаго з мацнейшых беларускіх футбалістаў сучаснасці і лідара зборнай — выставілі з гэтай зборнай перад найважнейшым матчам па палітычных матывах. І так цяпер выглядае, што і тут, як і ў тым жа фрыстайле, ідэалогія пераважыла спартыўны вынік, які быў такі блізкі і пра які яшчэ нядаўна заўзятары так марылі.

Што ж, тады як ёсць. Прынамсі за прафесійны дабрабыт кіраўнікоў футбола на бліжэйшы час можна быць спакойным. Яны добра разумеюць дзяржаўныя прыярытэты і цвёрда стаяць на іх варце. На жаль, нельга быць у спакоі адносна самога футбола, які ў гэтым годзе аглушальна праваліўся па ўсіх напрамках. Праваліліся клубы, нацыянальная зборная... Дый маладзёжную чаму б не згадаць — тая ў верасні прайграла Нідэрландам у Жодзіне з ганебным лікам 0:7. Хаця некалі прабівалася на EURO, заваёўвала там медалі і ўдзельнічала ў Алімпіядзе.

Зрэшты, гэта было так даўно, што здаецца няпраўдай. А праўда сёння — прабітае новае дно. І ніякай упэўненасці, што заўтра знізу зноў не пагрукаюць.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар Колб Аксана Мікалаеўна
Намеснік рэдактара Пульша Сяргей Пятровіч
Стыль-рэдактар Пяроўская Святлана Віктараўна

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

НАДРУКАВАНА ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1729

Падпісана да друку 15.10.2020. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.